PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (1901) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 18 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



**РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ.** Сенажаці каля Старога Ляўкова. *Фота Янкі Целушэцкага.*

# ПАМЯЦІ ЮРКІ ЛУЦКЕВІЧА

Сумная вестка прыйшла да нас з Вільні. Памёр Юрка Луцкевіч, старэйшы сын аднаго з першых нашых нацыянальных адраджэнцаў, Антона Луцкевіча. Быць сынам апостала першага нацыянальнага адраджэння беларускага народа пачатку веку справа нялёгкая. Быць жа ім у варунках таталітарнай камуністычнай дзяржавы нялёгкая ўдвая. Юрка Луцкевіч амаль усё сваё свядомае жыццё быў, паводле савецкай прапаганды, сынам "правадыра беларускіх фашыстаў", сынам "заклятага ворага савецкай улады". І таму жылося яму пад Саветамі цяжка, а часам жыццё яго пераўтваралася ў сапраўдную трагедыю, трагедыю, якая ніколі не змагла да канца зламаць яго, пераўтварыць у бяздушную, знішчаную тэрорам чалавечую адзінку. Ён заўсёды, нават у варунках цяжкага турэмнага зняволення, захоўваў чалавечую годнасць, заставаўся сапраўдным беларусам, патрыётам роднага краю.

Усе тыя, хто ведаў яго пры жыцці не маглі не паважаць яго адносіны да беларускасці. У яго доме шанаваліся імёны Івана і Антона Луцкевічаў, зберагаліся нешматлікія памяткі аб вялікіх братах, заснавальніках першага беларускага палітычнага руху. Ахвотна і вельмі гасцінна ў яго доме прымаліся наведвальнікі з савецкай тады яшчэ Беларусі. Юрка і яго вельмі мілая жонка, таксама нябожчыца, Ніна /Юрка перажыў яе ўсяго на год/ добра разумелі, што ўжо сам факт іх наведвання можа паслужыць у якасці падставы да кампраметацыі там на Беларусі. І таму прымалі гасцей яны вельмі чулліва і без непатрэбных эмоцый. Юрка заўсёды вельмі ахвотна дзяліўся сваімі ўспамінамі пра бацьку, быў гатоў служыць у якасці аўтарытэта-эксперта гісторыкам, этнографам, літаратуразнаўцам і прадстаўнікам іншых галін навуковай веды. Быў ён не толькі жывым сведкам жыцця і дзейнасці свайго вялікага бацькі, але і своеасаблівым сааўтарам для даследчыкаў і біёграфаў Антона Луцкевіча. Ягоная смерць - вялікая страта для беларускага віленскага асяроддзя, для беларускай гістарычнай навукі, якая дарэчы, толькі, толькі нараджаецца.

Юрый Антонавіч Луцкевіч нарадзіўся 22 кастрычніка 1920 г. у Вільні. Сярэднюю адукацыю атрымаў у славутай Віленскай беларускай гімназіі, а таксама ў Віленскім тэхнічным вучылішчы, дзе атрымаў спецыяльнасць тэхніка-электрыка. Другая сусветная вайна перашкодзіла яму атрымаць вышэйшую адукацыю. Са студэнцкай лаўкі Варшаўскай палітэхнікі трапіў ён у афіцэрскую школу Войска польскага, а затым у нямецкі палон. Ад камуністычных рэпрэсій уратавала яго тое, што Вільня на восем кароткіх месяцаў апынулася ў складзе Літвы. Трагічны лёс бацькі, арыштаванага і замучанага бальшавікамі, пазбавіў маладога Юрку Луцкевіча якіх-небудзь ілюзій у адносінах да савецкай улады. І калі ўлетку 1940 года ўся Літва была акупавана Чырвонай арміяй, ён слушна вырашыў перачакаць новую навальніцу. Да пачатку савецка-нямецкай вайны Юрка Луцкевіч са сваім малодшым братам, Лявонам, практычна знаходзіліся на паўлегальным становішчы. З пачаткам жа вайны ў яго з'явілася магчымасць прысвяціць сваё жыццё без астатку працы на ніве беларускасці. Ён працуе тады дырэктарам беларускамоўнай няпоўнай сярэдняй школы ў Радашковічах, пазней настаўнічае ў Баранавіцкай беларускай гімназіі. Удзельнічае ў палітычным жыцці Беларусі, не адмаўляецца ўзяць у рукі зброю, каб бараніць ідэю незалежнасці Беларусі. У беларускім войску меў афіцэрскі чын. Пасля вайны не змог прабрацца на

*Працяг на стар. 8*

## АБЛУДНЫ ТВАР КАПІТАЛІЗМУ

Нельга сказаць, каб пры капіталізме лепей нам жылося. Ну, вядома, усё залежыць ад пункту погляду. Адзін мой знаёмы, прадстаўнік пануючага сёння класа - поўнаю мордай бізнесмен, пасрэднік у гандлі збожжам - сказаў, што гэтага збожжа, за якое ўтрымлівае сябе і свае таёты, найчасцей не даводзіцца яму бачыць. Калі падумаць, дык нічога ў гэтым немаральнага. Усё-такі няма сумнення, што само збожжа існуе ды як каму розуму хапае, так на ім і зарабляе. Але гэта нічога, у Амерыцы гэты гандаль набыў зусім непраўдападобную форму. Збожжа шмат разоў пераходзіць "з рук у рукі", прадавец, пасрэднік і пакупнік шматкратна абменьваюцца ролямі і пры гэтым ніхто з іх тавару ніколі не бачыць. Ніхто не ставіць пытання пра яго існаванне. Зразумець механізм і значэнне гэтага ўяўнага абароту я не стараўся - гэта дзялянка Алеся Барскага і іншых тэарэтыкаў новага ладу. Для мяне дастаткова аднаго - грошы людзі душаць нават з чагосьці, што на першы погляд абстрактнае.

Стаяла калісьці ў нашай рэдакцыі дарагая камп'ютэрная апаратура. Яе гісторыя кароткая, але затое бурлівая. Закупіла гэтыя камп'ютэры Беларускае таварыства з датацыі, якую польскі ўрад прызнаў беларускай грамадскасці ў Польшчы. Спачатку камп'ютэры стаялі ў Таварыстве - асвойваліся з імі будучыя карыстальнікі. Пазней апаратура трапіла ў нашу рэдакцыю. Тут паслужыла яна дзеля набору тыднёвіка. Змяніўся выгляд газеты і, нельга не заўважыць, новая тэхніка прынесла крыху ашчаднасці. Не настолькі аднак вялікай, каб ліквідаваць дэфіцыт выдання. Гэтым часам, міфічныя мільярды Мазавецкага, за якія і былі куплены камп'ютэры, дажылі свой век. Таварыства пачало шукаць паратунак у камерцыі. Эмоцыі засяродзіліся на камп'ютэрах. Капітал, які ўяўляе сабою тая апаратура павінен служыць Таварыству. Ну і служыць, па сённяшні дзень. У гэтых спробах камерцыі капіталізм выявіў усю сваю аблудную натуру. Капітал, накоплены ў беларускіх камп'ютэрах, нібы тое амерыканскае збожжа, пераходзіў з рук у рукі, усе прынцыпы быццам бы і былі захаваны, уключна з узроўнем абстрактнасці. Толькі чаму, бляха, у нашым выпадку ніхто тут граша не панюхаў. Людзі затое перасварыліся на ўсе магчымыя спосабы. Давяло да гэтага спадзяванне на вялікія грошы /уяўныя/. Такое з чалавекам у змозе зрабіць толькі крызіс, у якім жывем. Ну і не пагаворыш з людзьмі нармальна.

**А. МАКСІМЮК**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

***Беражонага Бог беражэ. Ці не так?***
**(Звязда, былы орган ЦК КПБ)**

* * *

*... faszyzm był dyktaturą „koalicji” drobnomieszczaństwa z lumpenproletariatem, zaś komunizm był dyktaturą „koalicji” lumpenproletariatu z biedotą inteligencką...*
*(Gazeta Wyborcza, 1.10.1992)*

* * *

*Język polski ma bardzo ważną zaletę: jest wspólnym językiem dla wielu narodowości wyznania prawosławnego zamieszkałych w Polsce oraz jest bardziej zrozumiały niż białoruski czy ukraiński dla przytłaczającej większości Majac na uwadze dobro przede wszystkim chrześcijanina, a nie Białorusina czy Ukraińca, pamiętając, że idzie gra o życie wieczne, a nie o ograniczony czasem pobyt na świecie, możemy wybrać tylko język polski.*
*(Wiadomości Bractwa, nr 2, 1992 r.*

**Бог няроўна дзеле. Для палякаў жыцці зямное і вечнае, як бачым, не стаяць у такой супярэчнасці, як для беларусаў ці ўкраінцаў...**

* * *

*Po przybyciu do Polski i kilkudniowym pobycie we wsi Kleszniki ks. Tarasewicz dał się poznać jako szowinista białoruski, ponieważ do miejscowej ludności, pomimo że może dobrze rozmawiać po polsku — rozmawia tylko po białorusku...*
***(Запісы, н-р 20, New York 1992)***

* * *

*Brak paliw, ktory wystąpił, spowodowali sami kierowcy...*
*(Kurier Poranny, nr 208)*

**Замнога ездзяць, нікчэмнікі!**

* * *

*Białostockie zakłady poligraficzne wydrukowały kilkanaście tysięcy irackich dinarów, które — zdaniem ekspertów — były lepiej wykonane niż w Iraku.*
*Ibrahim S., podejrzany o fałszerstwo pieniędzy, przekonał kierownictwo zakładów, że banknoty posłużą jako materiały propagandowe. Projekt powstał w białostockim oddziale Związku Polskich Artystów Plastyków.*
*Policja poszukuje fałszerza listem gończym.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 233)*

**Беласток мае ўласныя магчымасці вырашэння фінансавых клопатаў у краіне!**

* * *

*Wczoraj Rosja otworzyła 64 punkty kontroli celnej na granicach z Ukrainą, Azerbejdżanem i państwami bałtyckimi.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 233)*

**А прабляма расейска-беларускай мяжы, як кажуць, адкрытая...**

* * *

*Chrześcijańscy politycy A.D. 1992 zrodzeni nad Wisłą proponują najwidoczniej powrót do świata sprzed narodzenia Chrystusa, świata, gdzie podstawową zasadą jest „oko za oko, ząb za ząb”.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 234)*

**Магчыма, палепшыцца матэрыяльная сітуацыя акулістаў і дантыстаў.**

* * *

*Zarząd Główny Związku Ukraińców Podlasia zaprasza na koncerty Zespołu Pieśni i Tańca Pałacu Kultury „Tekstylnyk” z Równego na Ukrainie. W programie ukraińskie pieśni i tańce z Wołynia. Zespół wystąpi (...) w Korytyskach (gm. Dubicze Cerkiewne).*
*(Gazeta Współczesna, 9-10-11.10.1992)*

**Калі ўжо Карыціскі Корытыскамы сталі, дык чаму ж не перайменаваць на Dubycze?**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**ПОДЫХ РЭФЕРЭНДУМУ**

Набліжэнне чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь найбольш выразна адчуваецца ў Менскім гарвыканкаме, куды ўжо пададзена некалькі заявак на правядзенне мітынгаў і пікетаванне падчас адкрыцця сесіі.

Народныя дэпутаты, як вядома, збяруцца пасля амаль паўгадовых вакацый 20 кастрычніка. А Управай БНФ прынята рашэнне аб правядзенні 18 кастрычніка на плошчы Незалежнасці мітынгу ці сустрэчы з дэпутатамі. Тэмай мітынгу - "Рэферэндум - мірнае выйсце з крызісу" - азначана і галоўнае патрабаванне: першым пунктам парадку дня сесіі выканаць волю 400 тысячаў грамадзян рэспублікі і вызначыць згодна з законам дату правядзення Усебеларускага рэферэндуму аб даверы да Вярхоўнага Савета. У першы дзень работы сесіі плануецца выставіць пікету каля будынку парламента.

**А САЎМІН СУПРАЦЬ!**

Папярэдняя дамоўленасць аб прадастаўленні пастаяннага эфіру паміж кіраўніцтвам Міністэрства інфармацыі, Белтэлерадыёкампаніі і прадстаўнікамі парламенцкай апазіцыі аказалася на справе марнай спадзяванкай для апошніх. Міністр інфармацыі Беларусі Анатоль Бутэвіч і старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Сталяроў адмовілі парляманецкай апазіцыі БНФ.

**500 МІЛЬЁНАЎ?!**
**ГЭТА ВАМ НЕ ЖАРТАЧКІ!**

Падчас візіту Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча ў Аўстрыю дасягнута дамоўленасць аб выдзяленні нашай рэспубліцы вялікага крэдыту. Прычым, у першыя пяць гадоў памеры гэтага безлімітнага крэдыту складуць прыкладна 5 мільярдаў шылінгаў /каля 500 мільёнаў долараў/.

**"РУСЬ" ТОЛЬКІ ДЛЯ РУСКІХ**

У час сустрэчы-нарады кіраўнікоў нацыянальных меншасцей Беларусі з вучонымі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь прыняты зварот да кіраўніцтва рэспублікі аб неабходнасці фінансавання дзяржавай дзейнасці нацыянальных арганізацый і меншасцяў, будаўніцтве для іх патрэб агульнага цэнтра нацыянальных культур.

Між тым, утворанае не так даўно Беларускае таварыства рускай культуры "Русь" на ўстаноўчым сходзе вызначыла ў якасці асноўнай ідэю абароны правоў рускага насельніцтва.

**МОВА НАША**
**ТАКАЯ Ж ЛЮДСКАЯ,**
**ЯК І КІТАЙСКАЯ ЯКАЯ**

На сённяшні дзень у Менску акрэдытавана 11 пасольстваў. Шэсць з іх размешчаны ў звычайных гасцінічных нумарах. Гэта ніяк нельга лічыць нармальным. І хаця самае шматлікае з іх - кітайскае, плануецца, што два будынкі дастанецца усё ж Расейскаму пасольству.

Дарэчы, пакуль у час афіцыйных сустрэч і перамоў у сценах Міністэрства замежных спраў ідзе пераклад на рускую мову. Няма яшчэ перакладчыкаў. Першымі ўсвядомілі неабходнасць патрэбных кадраў ізноў жа кітайцы - у бліжэйшы час супрацоўнік пасольства пачне наведваць паскораныя курсы беларускай мовы.

**БЫВАЙ, САВЕЦКІ РУБЕЛЬ?**

Перакананы, што сёння ў рэспубліцы няма тых умоў, якія неабходныя для ўвядзення нацыянальных грошай, начальнік Упраўлення эканомікі Савета Міністраў Беларусі Анатоль Дрэмаў лічыць усё ж такі крок магчымым, калі Расея пусціць у абарот новыя грошы.

А з першага кастрычніка па распараджэнню Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага банка ў сувязі з увядзеннем Літвой і Украінай ўласных грашавых адзінак у раёнах Беларусі на мяжы з гэтымі рэспублікамі зняты з абарачэння савецкія рублі.

**АХВЯР НЯМА**

У апошні дзень верасня на станкабудаўнічым заводзе імя Камінтэрна, што ў Віцебску вышла са строю радыеактыўная крыніца. Як паведаміў начальнік штаба грамадзянскай абароны Віцебскай вобласці Генадзь Шынкевіч, адбылася ўцечка цэзію, але небяспека была ліквідавана ў кароткія тэрміны, і ніводзін з работнікаў не пацярпеў. Спецыяльная кантрольная камісія вядзе даследаванне.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# З мінулага тыдня

**Сейм прыняў пастанову аб ратыфікацыі Канвенцыі аб ахове правоў чалавека і асноўных свабодах.** Дае яна грамадзянам, іх групоўкам і пазаўрадавым арганізацыям права падаваць скаргу на ўласны ўрад у Камісію і Трыбунал правоў чалавека, калі палічаць яны, што іх правы гвалцяцца. Прысуд Трыбунала нельга асправаць і прыгавораная краіна мусіць яму падпарадкавацца.

**Віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягелла ўзнагароджаны Ордэнам св. роўнаапостальнай Марыі Магдаліны** за "працу для добра Царквы і ахову каштоўнасцяў нацыянальнай культуры". Дапамог ён у паскарэнні кансервацыі старадаўняга іканастаса з XVII ст. і вяртанні яго ў царкву Праабражэння Гасподняга ў Любліне. З гэтай нагоды міністр прыняў удзел у Святой Літургіі, якую ў люблінскай царкве служылі епіскапы **Сымон** і **Авель**.

**Пасол Уладзімеж Цімашэвіч** /Саюз левых дэмакратаў/ - член польскай дэлегацыі у Парламенцкую асамблею Рады Еўропы паінфармаваў, што падчас сваёй апошняй пабыўкі ў Страсбургу перадаў ён дэпутату Французскай сацыялістычнай партыі **Жану Перу Вормсу** праекты шасці дэкамунізацыйных законаў, якія ставяцца на разгляд у Сейме. Задачай Вормса будзе абследаваць, ці гэтыя праекты адпавядаюць нормам Канвенцыі аб ахове чалавека.

**Літоўскае міністэрства юстыцыі** адмовіла ў рэгістрацыі Клуба жаўнераў Арміі Краёвай на Віленшчыне таму, што "дзейнасць АК была варожай у адносінах да Літвы".

**Расія і Беларусь будуць мець супольную мытную зону.** Неўзабаве будзе створаная мытная граніца Расіі з Латвіяй, Эстоніяй, Украінай, Азербайджанам і Грузіяй.

**Лаўрэатамі міжнароднай прэстыжнай узнагароды Right Livelihood Award** за 1992 год сталі, між іншым, праф. **Джон Гофман** з **ЗША** і ўкраінская журналістка **Ала Ярашынская** за выяўленне праўды аб пасля-доўнасцях катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

**Новая авіялінія Варшава-Менск-Варшава** будзе адкрыта з 26 кастрычніка 1992 года. Самалёты па гэтаму маршруту будуць вылятаць кожны панядзелак і чацвер. А рэгулярная авіясувязь паміж Беластокам і Гроднам наладзіцца праўдападобна ў маі 1993 г. Дзесяціасабовы АН-2 патрабуе толькі 25 мінут, каб пераадолець адлегласць паміж аэрадромамі Крыўляны і Абухава. Нядаўна ў Беласток, у рамках пробнага рэйса, прыляцела дэлегацыя грамадзянскай авіяцыі Беларусі на перамовы з Беластоцкім аэраклубам.

**Шэсць беластоцкіх спартсменаў** - удзельнікаў XXV Алімпійскіх гульняў у Барселоне сустрэліся з прадстаўнікамі ваяводскіх і гарадскіх улад. У гісторыі беластоцкага спорту не было дагэтуль такой колькасці алімпійцаў. У сувязі з гэтым спартсмены і іх трэнеры былі ўзнагароджаны медалямі "Заслужаны Беласточчыне". Лёгкаатлет **Яўген Бэдэнічук** атрымаў сярэбраны знак.

**Працягвалася забастоўка ў гайнаўскім прадпрыемстве Furnel.** У выніку перамоваў з варшаўскім кіраўніцтвам гэтай суполкі быў зняты з пасады дырэктар **Веслаў Філікс**, але дамоўленасці наконт павышэння зарплат не дасягнута.

## "НІВА" ПЕРАПРАШАЕ

Як усім нашым чатачам вядома 37 і 38 нумары "Нівы" паказаліся са спазненнем. З гэтай прычыны мы атрымалі шмат лістоў з прэтэнзіямі і абурэннем. Заўвагі нашых паважаных чатачоў лічым слушнымі, бо ніШто не апраўдае галоўнага рэдактара, ні калектыў за трохдзённае спазненне. Нават калі б вада ці агонь знішылі будынак рэдакцыі, "Ніва" павінна выходзіць рэгулярна. Нам не перашкаджала ні вада, ні агонь. Пасля таго, як дзеячы БГКТ забралі нам камп'ютэрнае абсталяванне, на якім рыхтавалася "Ніва", рэдакцыя была прымушана пазычаць камп'ютэры і друкарку ў прыватных асоб. Вядома, ніхто не пазычае на вечнасць, а толькі на некалькі тыдняў ці месяцаў. Так выйшла, што адзін камп'ютэр трэба было вярнуць а другі, таксама пазычаны, папсаваўся і не працаваў як трэба. Найлепшыя спецыялісты працавалі пры ім дзень і ноч, аднак страчанага часу адрабіць не было магчыма. Пасля ўжо ўсё проста валілася. Хтосьці не забраў усяго тыражу з друкарні, бо прывык гэтае рабіць у іншы дзень, хтосьці там не выпісаў фактураў для кіёскаў і зноў дзень спазнення. Можна біцца галавой у мур і нідзе няма вінаватых. Бо ў сапраўднасці вінаватая рэдакцыя, гэта нашы камп'ютэры не працавалі як трэба і ад нас матэрыял у друкарню вышаў са спазненнем.

Чытачоў "Нівы" перапрашаю ад сябе і цэлага калектыву. Зробім усё, што толькі магчымае, каб "Ніва" заўсёды была ў кіёсках у пятніцу раніцай.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

**P.S.** Пры нагодзе хачу падзякваць Алегу Латышонку і сябрам Галоўнай рады БДА за магчымасць карыстання тэхнічным абсталяваннем, на якім цяпер рыхтуецца "Ніва".

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”


- Скандал на выстаўцы ў Белавежы.
- Яшчэ раз „Грамада”.
- Медычныя парады інжынера Рудкоўскага.
- Чым Петручука знервавала ўлада.
- Дзядзька Захар у Сесмяноўцы.

# У МЕЛІЯРАТАРАЎ У КАНЦЫ СЕЗОНА

*"Меліярацыя, гэта як паэзія, - кажа мой сусед, - за свае гады працы ў фірме чаго я і не перажыў. З якімі толькі людзьмі не сустракаўся, у якіх мясцовасцях не быў. Як паедзем, бывала, у "тэрэн", дык і працуем, і выпіваем, і спімо ў нейкага дзядзькі ў клуні, усё на свеце".*

Мой сусед працаваў у меліярацыі 31 год, займаўся амаль усімі прафесіямі, ад магазінера да аператара землечарпалкі. Да пенсіі засталося яму ўсяго 2 гады /раней працаваў ён яшчэ 2 гады ў Гміннай управе ў Шудзялаве/, калі яго фірма - Прадпрыемства меліярацыйнага абсталявання і транспарту ў Бельску-Падляшскім - перастала існаваць. Разам з сотняй сваіх калегаў апынуўся ён на бруку.

На шчасце ў Бельску ёсць яшчэ другая фірма з такім самым профілем - Раённае меліярацыйнае прадпрыемства. Мой сусед у гэтым годзе знайшоў тут працу на час летняга сезона.

У РМП працуе - разам з кіраўніцтвам - 185 чалавек, а ў лецe, па дамоўленасці, яшчэ 40. У кастрычніку-лістападзе, калі час меліярацыйных прац скончыцца, сезонныя працаўнікі пойдуць на "куранёўку". Частка з іх можа вернецца на працу вясною, калі прадпрыемства атрымае адпаведныя заказы.

Раённае меліярацыйнае прадпрыемства ў Бельску сваёй дзейнасцю абнімае паўднёвую частку Беластоцкага і памежныя гміны Ломжынскага ваяводства. Сёння выконвае яно 5 вялікіх меліярацыйных мерапрыемстваў: Журобічы-Гарнова каля Дзядковіч, Клапоты-Гжыбы каля Сямяціч, Гродзіск, Алексін-Паплавы каля Бранска і Талчэва ў Ломжынскім ваяводстве. Кожная такая задача вартая 1-2 мільярды злотых.

Апрача гэтых вялікіх працаў РМП выконвае і меншыя, прыкладам: ачышчальні сцёкаў у Бранску і Ласінцы, вадаправоды ў Лубіне-Касцельным і Альшэве каля Бельска, цэнтральнае ацяпленне ў будаваных аб'ектах у Бельску - у Пачатковай школе н-р 4 і ў амбулаторыі на вуліцы Ягелонскай. РМП праводзіць рамонт цэнтральнай вуліцы Бельска - Міцкевіча, пры чым робіць камплектна ўсё, пачынаючы з каналізацыі, а на тратуарах канчаючы; толькі асфальт палюжыць іншая фірма.

У жніўні гэтага года сярэдняя зарплата атрымалася 2560 тысяч злотых /адлічыўшы падаткі выходзіла штосьці каля 2 мільёнаў 100 тысяч/. Ян Троц - намеснік дырэктара па эканамічных справах і галоўны бухгалтар - кажа, што заробкі не павінны паменшыцца і ў будучыні. У прадпрыемстве не думаюць таксама звальняць пастаянных працаўнікоў /іншая справа з сезоннымі/. Аднак усе адчуваюць, што надалей прадпрыемства ў такім стане існаваць не можа. "Ёсць націскі на прыватызацыю" - назваў гэтыя "адчуванні" дырэктар Троц.

Сёння ў Раённым меліярацыйным прадпрыемстве ў Бельску прымервацца стварыць працаўнічую суполку, але гаварыць пра яе яшчэ ранавата. Усё вырашыцца пасля новага года, а суполка павінна пачаць сваю дзейнасць пад канец першага квартала. Тады, калі пачнецца меліярацыйны сезон.

* * *

Усё часцей можна пачуць разважанні пра сэнс меліярацыі. Маўляў, надта вялікую цану плацім за гаспадарчы поспех - беззваротна знішчаецца натуральнае асяроддзе. Тым не менш, ніхто ўжо хіба не стане рабіць незмеліяраваную, нездрэнажаваную зямлю. Цяжка сабе ўявіць, каб хтосьці сёння выносіў на сваіх плячах сена з балота або араў коньмі ў падмоклых месцах.

На меліяратараў чакаюць яшчэ ў шмат якіх вёсках. А колькі старых інвестыцый патрабуе ўжо паправы. Так што працы для бельскага РМП напэўна хопіць. Каб толькі паспяхова прайшло яно працэс прыватызацыі.

Дык можа і мой сусед знойдзе сабе тут месца і неяк дацягне да пенсіі.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Фота Я. Целушэцкага*




**Droga Redakcjo.**

Waham sie czy o tym do Was pisać, ale z Krakowa do Białegostoku zbyt daleko aby jechać i coś załatwiać, w tej chwili nie dałabym rady. Dlatego piszę do Was. Co prawda niewiele mi zostało z moich ukraińskich wprawdzie a nie białoruskich korzeni, ale sentyment i ciągoty zostały. Zastanawiam się czy zamieścić w Waszej gazecie ogłoszenie, czy może macie jakieś informacje w interesującej mnie sprawie. Krótko mówiąc - chcę się wynieść z Krakowa, w województwo białostockie. Wiem że dużo domów i ziemi jest opuszczonych, nawet w telewizji to pokazywano. Wiem też jacy są ludzie na Białostocczyźnie, że można z nimi normalnie żyć, czego o południowej Polsce powiedzieć się nie da. Mam do Was prośbę - czy pomoglibyście mi w znalezieniu czegoś nadajacego się do zamieszkania, w promieniu 30 km od Białegostoku, co można by wydzierżawić lub niedrogo kupić, i gdzie można byłoby spokojnie i w miarę normalnie życ. To naprawdę nie musi być luksusowe. W Krakowie mieszkamy we dwie, z koleżanką, w mieszkaniu które nie jest naszą własnoscią. Obie chcemy się przenieść w woj. białostockie, dlatego prosimy o pomoc w znalezieniu jakiegoś domu zdatnego do zamieszkania.

Obie nie mamy tutaj łatwego życia. Ja byłam wielokrotnie atakowana na terenie osiedla. Koleżankę też spotykały różne nieprzyjemne historie. A ubiegłego wieczoru kiedy moja koleżanka wyszla na spacer z psem, ktoś z okna bloku rzucił w jej kierunku ładunek wybuchowy, który eksplodował w odległosci kilku metrów. Nie był to bynajmniej wybryk przypadkowego chuligana. Obie mamy tego po prostu dosyć. No cóż, do wielu innych spraw dochodzi m.in. to, że ani moja koleżanka ani ja nie jesteśmy katoliczkami, i o tym wszyscy na osiedlu wiedzą. Z dawniejszych czasów dobrze pamiętam jak za moimi rodzicami i za mną ciągnął się łańcuch nienawiści, szykan i represji, jak wielokrotnie zmienialiśmy miejsce zamieszkania żeby zatrzeć ślady i ujść prześladowaniom. "Banda UPA" - takie obelgi padaly pod adresem moich rodziców "ukraińska morda" - to epitety jakie pamiętam ze szkoły. I ciągłe represje, przez dziesięciolecia...

Nie zamierzam przed Wami ukrywać, że moi rodzice jeszcze przed wojną brali ślub w cerkwi, że matka śpiewała w chórze cerkiewnym, że dziadek należał do "Proswity" - chyba wystarczy. Ja wprawdzie wychowałam się w innych warunkach, ale chyba możecie zrozumieć dlaczego Was proszę o pomoc w znalezieniu jakiegoś domu właśnie na Białostocczyźnie.

Serdecznie Was pozdrawiam od siebie i w imieniu koleżanki.

***/прозвішча да ведама рэдакцыі/***

**Ад рэдакцыі:** Чытачоў, якія захочуць дапамагчы жыхаркам Кракава, просім дасылаць карэспандэнцыю ў нашу рэдакцыю.

* * *

Кансысторы Беларускай Аўтакефальнай Царквы сардэчна дзякуем за запрашэнне на ўрачыстасці ў Кафедральным Саборы св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. З жалем паведамляем, што наш журналіст не мог даехаць па фінансавых прычынах.

## БУДЗЕМ ЕСЦІ БУЛЬБУ

Сёлетняя засуха прадвяшчала бедную восень у сельскай гаспадарцы. І сапраўды, плён, асабліва збожжа, аказаўся горшы чымсьці ў папярэдніх гадах. Аднак у нас на Беласточчыне гэтага так не адчуваецца. Збожжа ўрадзіла даволі добра. А яшчэ лепш бульба.

Але селяніну як не вецер у вочы, то нож у плечы. Бульба ўрадзіла, але няма яе дзе прадаць. У Гарадку, напрыклад, у тамтэйшым ГСе сказалі мне, што не маюць за што арганізаваць скупку бульбы. ГС не мае чым плаціць гаспадарам, а ніводзін банк не дасць пазыкі на такую справу.

Лепш выглядае справа ў Нарве, дзе бульбу купляе і Насенная цэнтраля, і ГС. Плацяць яны па 110 тысяч злотых за цэнтнер, а ўсім ахвотным загадзя даюць мяшкі. Бульбу будуць экспартаваць на Беларусь.

Аднак ахвотных прадаваць бульбу па такой цане няшмат. ГС, які пачаў купляць яе толькі ў кастрычніку, назбіраў усяго 20 тон. Гэтую бульбу загрузілі на машыну і павезлі ў Сілезію шукаць пакупніка, які б заплаціў больш. Калі такі знойдзецца, дык і гаспадар можа разлічваць на павышэнне цаны ў недалёкай будучыні.

Калі не - давядзецца самому тую бульбу есці. Або завесці свіней. Толькі што потым з тымі свіннямі рабіць, калі ў горадзе кажуць, што танней купіць мяса ў Даніі.

**ак**

## ЗАГАДКАВАЯ ЗНАХОДКА

У капальні пяску на Прадпрыемстве будаўнічай керамікі ў Старым Ляўкове (гміна Нараўка) здарылася новая загадкавая знаходка. На гэты раз з нетраў зямлі выдабылі разгалінаваныя рогі: адзін нейкага невядомага сёння звера і другі — лапатападобны, праўдападобна ласіны. У тым месцы, дзе выкапалі гэтыя рогі некалі была непралазная дрыгва. Як расказваў мне аднойчы адзін вельмі стары дзядуля са Старога Ляўкова, рака Нараўка — як ён добра памятае — ажно тры разы змяняла сваё рэчышча ў ваколіцы сённяшніх вёсак Капітаншчына і Кас'яны. Па дарозе цераз балота тапіліся валы, а то і — бывала — уся запрэжка, валы разам з возам.

Да шэра-белага пяску (выпаласканага вадою) цяжка дакапацца. Доступ бароняць усялякае пераплеценае карэнне самых розных раслін ды глыбокая (ад двух з палавінаю да дванаццаці метраў) праслойка торфу. Глыбей ужо знаходзіцца ўспомнены пясок, слой якога даходзіць нават да сарака метраў. З гэтага пяску можна вырабляць шкло. Многія тутэйшыя жыхары помняць яшчэ шклозавод у Нараўцы.

У ліпені 1983 года аператар бульдозера, ляўковец Сяргей Бандарук, выкапаў 70-сантыметровай даўжыні цяжкі кавалак косці вельмі вялікага звяра. Як потым высветлілася, быў гэта... ікол маманта!

Таямнічыя рогі выклікалі вялікае зацікаўленне жыхароў навакольных беларускіх вёсак. Пабачыць іх можна ў памяшканні ляўкоўскага керамічнага прадпрыемства. Неўзабаве археалагічную знаходку завязуць у музей у Варшаву. Цікава, колькі стагоддзяў праляжала яна ў зямлі? Гэтую тайну раскрыюць вучоныя даследчыкі.

**ЯСЕНЬ**

## ХОЦЬ ВОКА ВЫКАЛІ

Раней, калі не гарэла ў вёсцы на слупе лямпачка, то або жулікі яе разбілі, або якая іншая аварыя была. Цяпер на асвятленні даводзіцца ашчаджаць.

У Нараўскай гміне за вулічнае асвятленне плоціцца з падаткаў. На гэты год прызначылі 470 мільёнаў, з якіх засталося яшчэ 200. Не ва ўсіх вёсках хапае грошай з падатку, каб заплаціць за святло. У сувязі з гэтым наступіла "дэцэнтралізацыя" - з Энергетычным прадпрыемствам дамаўляцца і разлічвацца будзе не гміна, а паасобныя вёскі. Гміна толькі адводзіць грошы на гэтую справу. Кожны солтыс ведае, колькі ў яго іх ёсць і можа сам рашаць калі ўключаць святло, а калі выключаць. Можна таксама інсталяваць меншыя лямпачкі.

Аднак пачаткі функцыянавання такой сістэмы цяжкія. Вёска плюхаецца ў восеньскім балоце і патанае ў цэмры.

**ак**




Частка XIV

Перспектыва вольнага палітычнага жыцця не выклікае ў большасці сялян зацікаўлення і адабрэння. Селянін, мой равеснік, выказваецца на гэту тэму такім чынам:

„Што нам з тае свабоды? Ты ж ведаеш, што цяпер робіцца і што можэ стацца з тымі, хто быў у партыі. Могут іх так схапіць за горло, што толькі з іх пер'е палеціт, от табе і свабода! Ты можэ ужэ забыўся, як ты лет дзесяць таму гаварыў, што ў Польшчы патрэбна апазіцыйна партыя і што патрэбнэ ў ёй малое безрабоцце і тады аздаровіцца палітычна і гаспадарча сытуацыя. Ну то сегодня маеш тые апазіцыйны партыі і безрабоцце. Ну і як яно аздаровілася? Скажы, як яно аздаровілася! Ты бачыш, што робіцца ў Сэйме. Што пару месяцаў паднімают сабе заробкі і ужэ, здаецца, дагналі да дзесяці мільёнаў у месяц. Падумай толькі! Дзесяць мільёнаў. А ты корміш паршучка паўтара року. Завязеш на базу і колькі табе? Дай Бог, каб далі паўтара мільёна. От табе і справядлівасць. Ї яшчэ адна чартоўшчына. Калі так, то ў гэтым Сэймові грызуцца як собакі і ўсе адны проціў другіх галасуют. А калі толькі дойдзе да галасавання ў справе сваіх заробкаў, то шаст-праст і ўжэ едзінагалосно ўхвалілі. Там жэш і беларусы здаецце е, і тые такія самы, як і рэшта. Нібось ні адзін не выступіў і ні сказаў: „Панове: гэты грошы, што мы сабе прыдзеляем паходзят з поту народу і давайце не будзем іх пад сябе грэбсці, хай яны ідут на школы і на бальніцы!" А дзе ж там, маўчат, як бы ўсраўшыся. Не, брацішку, гэто бардак, а ні палітычныя свабоды. Ну, ты мне вазьмі і скажы зараз якую такую ўхвалу прыняў Сэйм за цэлы рок, катора нам памагла б жыці. Ну скажы, катору, бо я слухаў і слухаў, але нічого талкового ні пачуў за два рокі. Ї том цяпер, калі толькі пачынаецца гэта аўдыцыя з Сэйма, то я трах і выключу телевізар. Їнша справа, калі пачнецца „Дынастыя". Тады гляджу, бо там бачыш і жыцце багатэ, і бабы хорошы. Але ты мне так скажы, брацішку, ты ж быў у Амерыцы, ці там усе такіе сволачы, як гэта цэла Алексіс? Я б ее забіў абухам, замачыўшы яго раней у гаўне. Да чаго здольна баба гэтаго ніякім розумам не поймеш, брацішку!"

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Сустрэў я аднак некалькі размоўцаў, якія аж так рэзка не асуджаюць Сейма і ўвогуле палітычнага жыцця ў Польшчы. Але ў іх выказваннях многа горычы і прэтэнзій. Трыццацідвухгадовы мужчына выказваецца наступным чынам:

„Палітычныя свабоды? Я думаю, што добрэ што яны е. Гляньце на Захад. Там у пачці каждом краю сотні партыяў і ўсе яны між сабою грызуцца. Мы ж ува ўсім хочэм быці падобныя да Захаду. То і ў гэтом мусім быці падобныя. Праўда, у Сэймі грызуцца і займаюцца ні тым, што напраўляла б нашу гаспадарку, нашэ жыцце. Але відно па другому не можэ быці. А што касаецца гаспадаркі, то мы жывем у вялікім хаосе. Калі я прачытаў, што Захад запрапанаваў нам каля шэсці мільярдаў долараў, а мы выкарысталі толькі пяцьсот мільёнаў, то мною аж затрасло. Я звычайны гаспадар, і я ведаў бы, што зрабіць, скажэм, з трыццацю тысячамі долараў, калі б іх мне далі. А тут тым часам эканамісты, палітыкі, прафесары і не знают, што зрабіць з шасцю мільярдамі. Аб чым гэто говорыт? А аб тым, што кругом барбесы. От таму і ўсе валіцца і нідзе парадку ніякого німа. Пры пэзэтпээры ў нас таксама было гаспадарчэ безгалоўе, а сегодня то ужэ і німа аб чым гаварыць. Ї найгоршэ для мужыка тое, што ні ведае, што будзе заўтра, ні гаворачы ўжэ аб тым, што будзе за рок. У горадзі таксамо німа велікого мёду. От нїхай гэтымі справамі займаўся б Сэйм, а не ірундой".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БАЛАХОВІЧ

*(пачатак у 37 н-ры)*

ЧАС БАЛАХОВІЧА

Беларускі і расейскі палітычныя камітэты пачалі ствараць супольную Саюзніцкую народную армію. Расейскія часці папаўняліся чырвонаармейцамі, завербаванымі ў лагерах для палонных; беларуская — фармаваліся з партызанскіх атрадаў „Зялёнага дуба" і астаткаў беларускіх батальёнаў урада Луцкевіча. Калі ў абоз Балаховіча пад Туравам сцягалі палескія, беларускія і ўкраінскія партызаны, у нейтральнай зоне між польскімі і савецкімі войскамі на Случчыне рыхтаваўся падсобны слуцкі фронт. План наступлення быў просты — Балаховіч меў узяць спачатку чыгуначныя вузлы Мазыр і Калінкавічы, ды павярнуць на Менск. У міжчасе на Случчыне павінна была адбыцца маланкавая мабілізацыя ў Слуцкую брыгаду, якая зараз жа направілася б таксама на Менск.

6 лістапада 1920 г. Саюзніцкая народная армія —дзве дывізіі пяхоты: 1 „Дывізія смерці" (у якой над балахоўцамі, якія прыйшлі з Эстоніі, колькасна пераважалі расейцы) і 2 Менская дывізія (чыста беларуская, з партызанаў), украінская партызанская брыгада атамана Іскры і кавалерыйская група Юзіка Балаховіча, пачалі наступленне па абодвух баках Прыпяці. Першы ўдар сіл Балаховіча прыняла на сябе савецкая 10 Стралковая дывізія. 7 лістапада атрады Бацькі ўзялі Петрыкаў, 10 — Мазыр, дзень пазней Калінкавічы.

Камандаванне савецкай XV арміі накіравала ў раён дзеянняў яшчэ тры стралковыя дывізіі і дывізію кавалеры. 14 лістапада бальшавікі адбілі Калінкавічы, але Балаховіч ізноў узяў горад раніцай наступнага дня. 2 Менская дывізія пачала ўжо рух на Менск, наступаючы ў напрамку Жлобіна. Украінцы Іскры накіраваліся тымчасам на Оўруч і Чарнобыль.

У гэты момант Балаховіч зрабіў памылку, якая непасрэдна вырашыла лёс кампаніі. Даведаўшыся, што ў Гомелі знаходзіцца 10 тысяч дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і аграмадныя колькасці зброі і амуніцыі, кінуў 1 „Дывізію смерці" і кавалерыю брата далей на ўсход. Лічыў, што папоўніць ён сваю армію дэмабілізаванымі салдатамі і зброяй, і толькі тады паверне на Менск. Пад канец дня, 16 лістапада, атрады Балаховіча падышлі з трох бакоў пад Рэчыцу, на прадмесці якой пачаліся вулічныя баі, якія прадаўжаліся цэлы наступны дзень.

Не менш цікавыя падзеі адбываліся ў палітыцы. 14 лістапада польскі ўрад загадаў свайму камандаванню ўстрымаць якую-небудзь дапамогу Балаховічу, інтэрнуючы нават тыя атрады, якія не паспелі ўвайсці ў дзеянне (між іншым, полк цяжкай артылерыі). Пакінуты сам сабе Балаховіч вядзе далей адчайную гульню. 16 лістапада абвясціў ён сябе начальнікам беларускай дзяржавы і стварыў у Мазыры ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі з сяброў Беларускага палітычнага камітэта. Тут пачаў бунтавацца Савінкаў, а за ім расейскія часці, якія адмаўляліся змагацца за нейкую там Беларусь. Балаховіч прымушаны быў вылучыць беларускія часці ў асобную беларускую армію пад камандаваннем свайго брата. Як ні дзіўна, у гэтую армію хлынуў натоўп добраахвотнікаў, нягледзячы на вельмі цяжкія абставіны на фронце (прыпамінаецца тут дабравольная мабілізацыя ў Беларускую краёвую абарону ў час II сусветнай вайны, у падобных абставінах). Пераважаючыя сілы бальшавікоў: 10, 48, 4 і 17 стралковыя дывізіі ды 33 Кубанская дывізія кавалеры спрабавалі акружыць Балаховіча. Атакай ад Жлобіна занялі 17 лістапада Калінкавічы. Праз два дні пачалося паўсюднае адступленне войск Балаховіча. 2 Менская дывізія ўпарта абараняла Мазыр, але 20 лістапада бальшавікі выціснулі яе з горада. 1 „Дывізія смерці" адыходзіла ад Рэчыцы лясным дарогамі, абмінаючы Мазыр. На поўдзень ад Прыпяці адступала група малодшага Балаховіча. Урэшце, ядро сіл Балаховіча было акружана, а ён сам ранены ў нагу. Уратаваў Бацьку палкоўнік Жгун, пераправіўшыся праз Прыпяць са сваім атрадам. Падмога прыйшла ў апошні момант.

22 лістапада Балаховіч пераламаў пазіцыі 33 Кубанскай дывізіі кавалерыі і пад канец лістапада выйшаў на польскі бок фронту. Частка 2 Менскай дывізіі прарвалася на Случчыну, узмацняючы слуцкую Брыгаду, якая абаранялася ад Чырвонай арміі да канца снежня 1920 года. Так скончыўся паход Булак-Балаховіча.

Няўдачу Балаховіча разглядаць трэба ў некалькіх планах. Па-першае: ягоная асабістая памылка з атакай на Гомель. Дух партызаншчыны перамог тут над духам дзяржаўнасці. Безумоўна, Балаховіч, што б ні было, павінен быў наступаць усімі сіламі на Менск. Тады пачалася б сапраўдная міжнародная палітыка.

У гэтым плане памяшчаецца таксама дыверсія прэм'ер-міністра ковенскай

*Працяг на стар. 8*



# КАМУ ДОБРА ЖЫЦЬ?

Калісьці адказ на гэтае пытанне быў па-дзіцячаму просты: пану і фабрыканту! Цяпер жа яснасць перастае быць яснай. Маю тут на ўвазе не палякаў, бо, хоць жыву ў Беластоку больш сарака гадоў, так і не зразумею я іх.

Як беларус пішу я пра беларусаў або пра беларусападобенцаў, роднае каранёўе. У маіх Крынках **дабрабыт залежыць ад таго, з кім чалавек гаворыць.** Калі з чужым, на вуліцы або ў краме ці на рынку ў тарговы чацвер, дык тады бяда з бядою... Здаецца, яшчэ хвілінадзве і ўсе наўкола застогнуць ды заплачуць, як на паніхідзе. Уцякай і не аглядайся!

Затое ж зусім іншая гутарка, калі наедзе ў хату дзядзькоў з цёткамі, найлепей з упалоханага безграшоўем Беластока; ну, няхай з Гайнаўкі ці з падобнага паўгорада. Іхны шчэбет беларуса-палякаў перастаў рабіць пекнае ўражанне, якое наглядалася ў даволі нядаўні час; з мужыцкіх паноў пасыпалася пер'е, аблазяць. А мы ім пад нос усё, чым хата багата. Паказваецца, што цалкам нябедная.

Адправіўшы ў адвячорак той гурт нядзельных сваякоў, дакінуўшы ў багажнік іх "малюха" мяшэчак сорт-бульбы, яблык, сліваў і цыбулі з буракамі, з румяным задаволенасцю вяртаемся ў канапны пакой прыбраць каўбаснажытнёвае застолле. Пунктуальна а палова восьмай уключаем тэлебач, каб з прыемнасцю паслухаць варшаўскагданьскага енкату.

Мала што даходзіць да мазгоў з гэтага экраніка, бо тое, што чуем, як бы не датычыць нас: Польшча валіцца, але мы дамо сабе рады. Лапатлівы Курань падбавіць рэнту, агарод у захацці родзіць усенькага аж пад самюткую завязку, гаспадарку ўперлі дурному ПГРу /дай Бог здароўе таму Герку! І бабам ён надта ж падабаўся/. Самому многа купляць не трэба, от, буханку хлеба, цаглінку масла, кавалец мяса /калі свінча сам не трымаеш у хлеўчыку/, бутэльку малака, а рэшта ежы свая. Не паліўшы электрыкі, то і паўмільёна застаецца штомесяц сыну без работы або дачцэ, унуку якому. Чаго хацець?

Панаракаўшы перад суседам і нахваліўшыся перад шваграмі, спакойна засынаем. У гэтае глыбокае адпачыванне шызафрэніка сніцца колішняя, маладая, вёска. - Вось Юліся едзе возам у поле, а ззаду ідзе подбегам яго Золька: з сярпом у адной руцэ, з клункам абеду ў другой, і з дзіцём у радзюшцы за плячыма; гэта так ёй ён помсціць за тое, што цесць не даў у пасаг абяцаны паўучастак. - Шалёная Верка тыдзень капала бульбу ў двары дэ Вір'яна і потым купіла ў жыда за гэта спадніцу сабе, за што яе мужык парэзаў ёй касою лыткі...

Беларускі шызафрэнік прачынаецца ўспацелым. Світае, але пеўні не спяваюць, дзіўныя пеўні з інкубатараў. Бы наша моладзь, што п'е ды маўчыць, нават мардабоем не займаецца. Не тое, што даўней.

Каб не паместавелыя дзеці, дык рэнты за гаспадарку было б ажно занадта... Трэба быць вельмі хворым або разлезлым гультаём, каб не мець пры тым свайго загону /на два асеннія дні капання рыдлёўкай/. Вядома, каб было каму збыць хату з будынкамі, у пярынах валяўся б і слугу наняў бы на апошнія гады жыцця. Але, хто сёння возьме што ў цябе за грошы; ужо крапівою сядзіба зарастае; у пустых стадолах куны шныпараць і совы мільгаюць.

Ты шчаслівы, калі падумаеш, што маеш хлеб і да хлеба як быццам за нішто, за тое, што кінуў працаваць, араць ды сеяць. І нешчаслівы, адумаўшыся, колькі табе заплацілі б за дом з пляцам і ўсімі пажыткамі, калі б вёска была яшчэ патрэбнай.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

**P.S.** Шызафрэнія - гэта псіхічная хвароба, раздвоенае бачанне рэальнасці. І радасць, і слёзы адразу. Вар'яцтва.

# ГІСТОРЫЯ СЯМЯЦІЦКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ПРЫХОДА

*/пачатак у папярэднім нумары/*

Новая царква ў форме крыжа была пабудавана каля старой, драўлянай. Сямяціцкія гаспадары Фэншай і Цярцерскі ахвяравалі з уласных цагельняў па 25 тысяч штук цэглаў кожны, каля 10 тысяч штук атрымана было з разборкі манастырскіх будынкаў. Кошт пабудовы царквы быў пакрыты з розных крыніц: 3 тысячы рублёў паходзіла з дзяржаўных сродкаў, 741 рубель ахвяраваў брэсцкі епіскап Ігнат /Жалязоўскі/, рэшту коштаў пакрылі прыхаджане. Яны бясплатна выканалі фізічныя работы, а таксама забяспечылі пастаўку будаўнічых матэрыялаў. Матэрыял са старой царквы аказаўся непрыдатным, абсталяванне ж яе было планавана для могільнікавай царквы. Намеру гэтага аднак не здзейснілі, але ў 1865 г. у цэнтры горада была пабудавана праваслаўная капліца. Знаходзіўся ў ёй абраз св. Аляксандра Неўскага ў сярэбранай рызе. Пасля разбурэння ў 1925 г. капліцы, яго перанеслі ў парафіяльную царкву, дзе і цяпер ён знаходзіцца.

У кастрычніку 1884 г. на тэрыторыі прыхода былі адкрыты школы. Знаходзіліся яны ў наступных вёсках: Волька, Слохі, Слохі-Агароднікі, Баратынец-Рускі, Турна-Вялікая, Турна-Малая, Бацікі. Вучылася ў іх 56 хлопцаў і 21 дзяўчынка. Школы гэтыя не мелі яшчэ сталых памяшканняў для вучобы, адсюль і назва іх - рухомыя, вандроўныя /передвижные/.

У 90-х гадах XIX ст. на тэрыторыі прыхода было ўжо 15 царкоўна-прыхадскіх школ, а менавіта: у Баратынцы-Рускім, Бацікаx-Далейшых, -Бліжэйшых і -Сярэдніх, Буйнах, Вярцені, Вольцы над Бугам, Агародніках, Слохах-Вялікіх, Толвіне, Турне-Вялікай і -Малой, Цацэлях, Чартаеве і Шаршэнях з агульнай колькасцю 136 хлопцаў і 36 дзяўчынак і дзве народныя /дзяржаўныя/ школы: у Радзівілаўцы і Сямяціччах.

У 1900 г. у Сямяціччах у будынку былога манастыра адкрылі аднакласную царкоўна-прыхадскую школу, якая ў наступным годзе стала двухкласнай. У 1902/1903 навучальным годзе вучылася ў ёй 49 вучаніц.

У 1905 г. на тэрыторыі прыхода было 2 царкоўна-прыхадскія школы, 10 школ "граматы", з агульнай колькасцю 324 вучні, і 3 пачатковыя народныя школы з 201 вучнем. Прыведзеныя лікі гавораць за тое, што прыцаркоўнае школьніцтва адыграла істотную ролю ў сістэме асветы.

У 80-х і 90-х гадах XIX ст. і аж да пачатку I сусветнай вайны парафія развівалася. Быў створаны штат памочніка свяшчэнніка, паўстала патрэба новых жыллёвых і гаспадарчых будынкаў. Вакол царквы паставілі мураваную з каменя і цэглы агароджу, а ў 1890 г. з паўднёвага боку паставілі стыльныя ўваходныя вароты, а на іх павешаны быў абраз св. Тройцы. У гэтым жа годзе быў умешчаны ў алтары крыж, які выканаў скульптар Іван Барысевіч. У 90-х гадах царкоўны парафіяльны будынак вымагаў ужо капітальнага рамонту. Кошт гэтага рамонту склаў 1600 рублёў. Пасля рамонту, дня 16.X.1897 г., царква зноў была агледжана. У 1900 г. быў пабудаваны дом, а ў наступным годзе быў праведзены капітальны рамонт капліцы св. Аляксандра, агарадзілі яе /таксама/ дэкаратыўным цагляным мурам, а ў дзень св. Параскевы пасвяцілі яе. Для парафіяльнай царквы купілі дзве металічныя харугвы, два вялікія падсвечнікі, а ў сярэдняй частцы храма дабудавалі драўляныя хоры. Свяшчэннік А. Дубінскі ахвяраваў дзве іконы: св. Антонія Пячэрскага і св. Фядосія Чарнігаўскага. Могільнік, які ўзнік у 1904 г. у выніку эпідэміі халеры, агароджаны быў мурам з палявых каменняў. У 1904 г. парафіяльная царква набыла вялікі медны, пасярэбраны і пазалочаны сямісвечнік. У наступным годзе заказалі ў Чарнігаве дзве іконы: св. Серафіма Сароўскага і св. мучанікаў віленскіх: Антонія, Іаана і Еўстафія, купілі дубовыя кіёты для ікон Божай Маці і св. Мікалая.

Узбагачаную прадметнымі ахвярамі і ўпрыгожаную царкву 18.IX.1906 г. наведаў епіскап Міхаіл, які кіраваў Брэсцка-Гродзенскай епархіяй.

У гадах 1907-1914 царква атрымала новы іканастас, некалькі новых ікон і званы.

У пачатку XX ст. сямяціцкі прыход уваходзіў у склад новастворанай Гродзенска-Брэсцкай епархіі з сядзібай у Гродне. У 1905 г. прыход налічваў 5177 прыхаджан у Сямяціччах і 22 вёсках. На тэрыторыі прыхода існавалі дзве прыцаркоўныя школы і дзесяць школ "граматы", у якіх вучыліся 324 вучні. Паралельна з гэтым дзейнічалі 3 дзяржаўныя пачатковыя школы /народныя/, у якіх вучыўся 201 вучань. Да прыхода належалі 82 дзесяціны зямлі, а таксама парафіяльныя будынкі.

Пасля абнародавання дэкрэта /указа/ аб свабодзе веры /верацярпімасці/ 70 чалавек з Сямяціцкага прыхода перайшло ў каталіцызм.

У 1914 г. прыход налічваў 6625 прыхаджан. Дасяпраў план пабудовы ў Сямяціччах другой парафіяльнай царквы. Мела яна быць пабудавана насупраць даўнейшых палацовых пабудоў, пры сённяшняй вуліцы 11 Лістапада, дзе цяпер знаходзіцца. пасёлак "Тарасы".

Першая сусветная вайна прымусіла большасць прыхаджан пакінуць родную старонку. У жніўні 1915 г. духавенства і большая частка прыхаджан былі эвакуіраваны ў глыб Расіі. Парафіяльныя будынкі былі заняты акупантам, а царкву замянілі на гаспадарчы будынак. Астаўшыеся прыхаджане былі пазбаўлены духоўнай апекі.

*/працяг будзе/*
**Р.С. і М.С.**



*Капліца св. Аляксандра Неўскага і ратуша ў Сямяціччах — 1910 год. Рэпр. Антонія Навіцкага.*

# ПЕРШАЯ КАТАЛІЦКАЯ МІСІЯ Ў ПОЛАЦКУ

Кантакты старажытнага Полацка з каталіцкім светам былі пастаяннымі. Каталікі-замежнікі часамі прабывалі і ў самім Полацку. Аднак першая місія з'явілася тут толькі ў канцы XV стагоддзя.

Заснавалі яе ў 1490-х гадах манахі-бернардзінцы. На жаль, крыніц, якія асвятляюць гісторыю гэтай місіі, захавалася вельмі мала. З дакументаў вядома, што ўжо ў 1498 г. у Полацку пабудавалі бернардзінскі манастыр і касцёл Божай Маці, якога настаяцелем стаў вядомы Лявон з Ланьцута, будучы правінцыял ордэна. Усе будынкі, узведзеныя ў прадмесці Запалоцце, былі драўлянымі. Сам вялікі князь Аляксандр клапаціўся аб місіі, ён жа быў фундатарам манастыра.

Асноўная мэта, пастаўлена перад манахамі-бернардзінцамі, якія апынуліся ў "моры праваслаўя", гэта перавярочванне праваслаўных у каталіцтва, у чым яны ў першыя гады дабіліся вялікага поспеху, дзякуючы складзеным у той час гістарычным умовам, а таксама таму, што разам з гарачай і ўмелай пропаведдзю на старабеларускай гутарковай мове яны надта паспяхова выкарысталі ў сваіх мэтах школу, працэс абучэння дзяцей полацкіх гараджан. Важным было і тое, што бернардзінцы не перахрышчвалі праваслаўных у выпадку іх пераходу ў каталіцтва. Фактычна дастаткова было толькі вусна згадзіцца на такі пераход, вусна прызнаць асновы каталіцкай веры і ўсё.

У самым канцы XV - пачатку XVI ст. у Полацку існавала ўжо даволі значная каталіцкая абшчына, асабівасцю якой, як і многіх іншых падобных абшчын у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім, было захаванне ўсходняй абраднасці, уключаючы ранейшую кніжнасць і царкоўнаславянскую мову.

Аб тым, што абрады нованавернутых былі і доўгі час асталіся менавіта ўсходнімі, практычна ранейшымі, праваслаўнымі, сведчаць многія сабраныя факты. Натуральна, гэтая, невырашальная спачатку, праблема абраднасці для новых католікаў турбавала Ватыкан. Практычнае яе вырашэнне магло быць толькі адно - дазволіць, значыць узаконіць, ранейшую абраднасць і, па меры магчымасці, не перахрышчваць навернутых. Пасля некалькіх месяцаў старанных роздумаў, улічваючы вопыт Фларэнцкай уніі, Ватыкан даў на гэта сваю згоду /жнівень - верасень 1501 г./.

У спецыяльным папскім дэкрэце ад 1501 г. чытаем: "... некаторыя рускія Вялікага княства Літоўскага, якія жывуць у віленскай, кіеўскай, луцкай, жмудскай абласцях і іншых месцах, жадалі б адмовіцца ад сваіх грэчаскіх памылак і прыняць каталіцтва, але не хочуць зноў хрысціцца, папа на падставе Фларэнцкага сабора заяўляе: не перахрышчваць нікога з ліку хрышчаных і па грэчаскаму абраду... і не забараняць ім трымацца сваёй царкоўнай абраднасці...".

У 1563 г. пасля захопу Полацка Іван Грозны загадаў спаліць бернардзінскі манастыр, а манахаў пакараць смерцю. Некаторым бернардзінцам ўдалося ўцячы, трэ з іх загінулі. Так закончылася гісторыя першай каталіцкай місіі ў Полацку.

Праз паўтара дзесятка гадоў, калі горад перайшоў у рукі Стэфана Баторыя, якога войскі разграбілі горад і вывезлі ў якасці трафея адну са старажытнейшых еўрапейскіх бібліятэк - бібліятэку праваслаўнага Сафійскага сабора, польскі кароль рашыў зрабіць новымі каталіцкімі місіянерамі езуітаў.

З часам, на месцы кальвінісцкага сабора і праваслаўных могілак быў пабудаваны езуіцкі калегіум, дзе стварыўся адзін з буйнейшых у свеце, а потым і на некалькі дзесяцігоддзяў /другая палавіна XVIII - пачатак XIX ст./ адзіны цэнтр гэтага каталіцкага ордэна.

Бернардзінцы вярнуліся ў Полацк у 1696 г.

**Ю. ЛАБЫНЦАЎ,**
доктар філалагічных навук




**Бібліяграфія прац інж. Барыслава Рудкоўскага:** навуковыя працы, знаходкі, тапаграфічныя распрацоўкі, графіка і хроніка (надрукаваныя і машынапісы).

Semena stromů a křovin jako potrava ptaků v zime. Sylvia, Praha 1948 nr 2, s. 45—47. Rez.

O vyznamu uceleneho fenologického pozorováni ptactva v přírodě. Sylvia, Praha 1948 nr 3, s. 68—69.

Эрозия почвы и растительный покров. За социалистическую сельскохозяйственную науку, Серия А, Прага 1953, нр 2/3, с. 199—209.

Исследование морфологии кварца из лесных почв в аспекте фациального анализа. Минерологический Сборник Львовского Государственного Университета им. Ив. Франко, н-р 21, Выпуск 4 Львов 1967 с. 375—442, Суммары.

Топографический план Воскресенской церкви, ограды, растущих деревьев и памятников г. Бельск Подляский, с элементами истории и графики, Сентябрь 1977 г. Царкоўны архіў, машынапіс.

Топографический план участка земли и здания церкви Рождества Пресвятой Богородицы г. Бельск Подляский ул. Пушкина н-р 6. Август 1977 г. Царкоўны Архіў, машынапіс.

На гліняным выкапе — Запіскі натураліста. Ніва, 21.05.1978 г.

Камы з слядамі жыцця — Ніва, 9.07.1978 г., н-р 28, рыс.

Норы без жыхароў — Запіскі натураліста. Ніва, 16.07.1978 г., н-р 29, рыс.

Геаіхналагічныя назіранні — Запіскі натураліста. Ніва, 8.08.1978 г., н-р 32, рыс.

Назіранні ў даліне ракі (Любкі і Белай) — Запіскі натураліста. Ніва, 3.09.1978 г. н-р 36. рыс.

Гліны захоўваюць першыя сляды жыцця. Ніва, 29.10.1978 г., н-р 44, рыс.

Гліны захоўваюць сляды жыцця. Ніва, 12.11.1978 г., н-р 46, рыс.

Глебы, Ніва, 24-31.12.1978 г., н-р 52/53, рыс.

Яшчэ не чуваць жаваранка. Ніва, 6.05.1979 г., н-р 18, рыс.

У даліне ручая (вёскі Сакі каля Пасынак). Ніва, 20.05.1979 г., н-р 20, рыс.

Геамарфалогія аховы прыроды (даліны ракі Арлянка ад маста ў Храбалах да вёскі Даніскі). Ніва, 27.05.1979 г., н-р 21, рыс.

Феналагічныя назіранні. Машынапіс, рыс.

След на зямлі (Горная каля Гайнаўкі). Ніва, 1.07.1979 г., н-р 26, рыс.

Гліна і гігіена вады. Ніва, 8.07.1979 г., н-р 27, рыс.

Адзінота на радзімай глебе. Ніва, 22.07.1979 г., н-р 29, рыс.

Феналагічныя назіранні (у даліне ракі Любка). Ніва, 29.07.1979 г., н-р 30, рыс.

Глеба. Ніва, 12.08.1979 г.,н-р 32.

Назіранні глеб і раслiннасці (на палях вёскі Аўгустова каля Бельска-Падляшскага). Ніва, 26.08.1979 г., н-р 34, рыс.

Таямнічыя з'явы. Ніва, 9.09.1979 г., н-р 36, рыс.

Геамарфалогія аховы прыроды. Ніва, 16.09.1979 г., н-р 37, рыс.

Голас натураліста да Ані з Лазіц. Ніва, 24.02.1980 г., н-р 8, рыс.

Натураліст „Нівы" да Ані Мартынюк з Плёсак. Ніва, 24.02.1980 г., н-р 8.

Зіма (у храбалоўскім лесе). Ніва, 9.03.1980 г., н-р 10, рыс.

На рынку ў Бельску. Ніва, 23.03.1980 г., н-р 12.

*Працяг на стар. 8*

## КУРС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У сакавіку мінулага года была падпісана паміж польскім і беларускім радыёвяшчаннямі дамова аб супрацоўніцтве. У дакуменце, між іншым, сцвярджалася, што польскі бок падрыхтуе радыёкурсы польскай мовы для слухачоў у Беларусі, а беларускі бок падобныя курсы беларускай мовы для слухачоў у Польшчы. Пра ажыццяўленне пункту дамовы з беларускага боку доўга-доўга не было чуваць. Толькі ў гэтым месяцы дырэктар беластоцкага радыёвяшчання на сустрэчы з прадстаўніцтвам беларускага асяроддзя паведаміў, што беларускае радыё курсы гэтыя ўрэшце прыслала.

Курсы ахопліваюць 20 урокаў па 5-10 хвілін кожны. Ці можа матэрыял гэты быць прыдатным на ўроках беларускай мовы ў школах Беласточчыны? Цяжка мне сказаць. Выслухаў я ўсяго адну лекцыю. Першае ўражанне такое, што курсы гэты накіраваны перад усім да палякаў. Ва ўроках багата вестак пра гісторыю і геаграфію Беларусі.

Дырэктар беластоцкага радыё на згаданай сустрэчы з беларусамі сцвердзіў, што яго фірма можа зацікаўленым курсы гэтыя перапісаць на касеты. Трэба дзеля гэтага даставіць у радыё свае касеты /дастаткова дзве па 60 хвілін/.

За дэталёвай інфармацыяй можна звяртацца ў беларускую рэдакцыю па тэлефоне 260-55.

/ам/

# У БУДУЧЫХ ЛЕСНІКОЎ

Яшчэ да таго, як пачаўся новы навучальны год, у памяшканнях Комплексу лясных школ у Белавежы зрабілася шумна. А ўсё за справай удзельнікаў з'езда выпускнікоў школы з семдзесят пятага года. З'езд адбыўся ў канцы жніўня і ўдзельнічала ў ім каля 40 чалавек (некаторыя выпускнікі прыехалі нават з сем'ямі).

Зараз у белавежскай „кузні леснікоў"вучыцца каля 300 вучняў. 58 з іх парог гэтай школы пераступіла ўпершыню ў гэтым годзе. Веды будучым спецыялістам-леснікам перакажуць 22 настаўнікі. Школай ад верасня г.г. кіруе інж. Тадэуш Палятыла. Да гэтага часу школе дырэктараваў інж. Веслаў Талярчык, які перайшоў на іншую працу. Найлепшымі вучнямі ў мінулым годзе аказаліся: Я. Мікіцюк (сярэдняя ацэнка 5,14), С. Смолюк (5,13), Р. Зубковіч (5,00), А. Рабчук(5,00), В. Койла (4,92), К. Пыськ (4,76), В. Томкель, Б. Даскоч, Д. Пажых (усе тры па 4,69) і Р. Осак (4,57).

Умовы ў школе вельмі добрыя. Аснашчэнне кабінетаў да навукі, залежна ад патрэб, стала папаўняецца. Падчас канікулаў адрамантавана залы ў дыдактычным комплексе і інтэрнаце. У гэтым апошнім першы раз за некалькі гадоў удалося зрабіць рамонт спакойна, без паспешнасці, а ўсё толькі таму, што сёлета не было ахвотных наняць памяшканні на патрэбы летніх лагераў. Зараз школа рыхтуецца да генеральнай мадэрнізацыі сваёй кацельні, з выкарыстаннем навейшых тэхнічных развязак, якія элімінуюць празмернае забруджванне асяроддзя.

Гэтая вядомая і цанёная ў дзяржаве асветная пляцоўка ў апошні час скарачае свае структуры. З-за недахопу адпаведнага ліку ахвотных тры гады таму назад ліквідавана завочнае аддзяленне. Ад двух гадоў у стане ліквідацыі знаходзіцца прафесіянальнае вучылішча. Не вядзецца ўжо набор у яго, а зараз функцыянірue толькі апошні, трэці клас. Усё паказвае на тое, што комплекс лясных школ неўзабаве вернецца да сваёй старой назвы — Лясны тэхнікум у Белавежы. Прафесіянальнае вучылішча рыхтавала кваліфікаваных лясных работнікаў — гаёвых. Большасць коштаў, звязаных з яго ўтрыманнем нясло надлясніцтва Белавежа, не маючы, праўду кажучы, вялікай з яго карысці, бо на працу паступалі ўсяго адзінкі выпускнікоў. Утрымоўванне прафесіяналкі мясцовым лясніцтвам перастала ў такой сітуацыі мець які-небудзь сэнс.

У будучым годзе, у красавіку, белавежскі тэхнікум развітаецца са сваім, не вельмі трапна выбраным, а хутчэй накінутым, патронам — генералам Аляксандрам Вашкевічам, дарэчы, ураджэнцам Белавежы. У гэтай справе ёсць ужо згода Куратары асветы і выхавання. Зараз разглядаюцца прапановы патронаў, больш адпаведных характару школы.

І яшчэ адно важнае здарэнне чакае тэхнікум у гэтым жа красавіку. Менавіта тады адбудзецца агульнапольскі дэкламатарскі конкурс пад лозунгам „Чалавек і прырода". Варта пры нагодзе ўспомніць, што ў тэхнікуме дзейнічае дэкламатарскі гуртох, удзельнікі якога дабіваюцца вялікіх поспехаў на раённых, ваяводскіх, а нават агульнапольскіх конкурсах. Гуртком кіруе настаўніца польскай мовы — Альжбета Ляпрус.

**ПЁТР БАЙКО**




*Вучань тэхнікума Марэк Маслоўскі прымаў удзел у агульнапольскім дэкламатарскім конкурсе.*

# „НІВА" ВІНАВАТАЯ?

4 кастрычніка г.г. у Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства прайшло сумеснае пасяджэнне камісій асветы і культуры. Пасяджэнне датычыла ацэнкі мерапрыемстваў, арганізаваных Таварыствам у культурна-асветным 1991/92 годзе ды прыняцця плана працы абедзвюх камісій і рэгламенту конкурсу "Беларуская песня".

У справе конкурсу і яго рэгламенту Валянціна Ласкевіч /сакратар ГП БГКТ/ сказала, што конкурсная камісія, прызнаючы ўзнагароды выканаўцам, часта не прытрымоўваецца катэгорый, прадугледжаных рэгламентам. Удзельнікі сцвердзілі, што ў выпадку шмат якіх калектываў вельмі цяжка аднесці іх у тую, ці іншую катэгорыю, у сувязі з чым выказаліся яны за тое, каб рэгламент конкурсу прызнаў камісіі большую свабоду ў размеркаванні ўзнагарод. Дагэтуль, гаварылася на пасяджэнні, праводзілі мы такую палітыку, каб не знеахвочваць калектываў, якія прымаюць удзел у "Беларускай песні". Таму і стараліся як мага больш калектываў узнагародзіць. Сяргей Лукашук з Бельска прапанаваў, каб новы рэгламент прадбачыў галоўную ўзнагароду "Беларускай песні", узнагароду якая была б па-над усімі іншымі першымі месцамі, а прызнавалася б за выключныя артыстычныя вартасці. Прысутныя пагадзіліся з прапановай ды прынялі наступны падзел калектываў-удзельнікаў "Беларускай песні": салісты, невялікія вакальныя формы /да квартэта ўключна/, большыя вакальныя формы /звыш квартэта/ і хоры. Кожная з гэтых катэгорый падзяляецца яшчэ на тры: жывы фальклор, апрацаваны фальклор і сучасная песня. Агулам дванаццаць розных катэгорый.

Ян Сычэўскі /намеснік старшыні ГП БГКТ/ склаў справаздачу з праведзеных Таварыствам культурных мерапрыемстваў у 1991/92 годзе. Сказаў, што найбольшай папулярнасцю карысталіся фэсты ў гмінах. На арганізацыю гэтых жа фэстаў Таварыства не атрымала ні залатоўкі датацыі з Міністэрства культуры і мастацтва. Арганізаваліся яны пры дапамозе войтаў і мясцовых самаўрадаў. Не лічачы Нарвы, дзе дождж абмежаваў мерапрыемства да канцэрту аднаго калектыву, і Сямяціч, дзе і самі арганізатары не разлічвалі на вялікую публіку, фэсты прайшлі надзвычай паспяхова. Хваляванні ж войтаў, што ў мяшаным асяроддзі акрамя беларускіх калектываў трэба паказаць і польскія, а канферанс павінен весціся па-польску, не апраўдаліся. Не было ніводнага выпадку, сказаў Ян Сычэўскі, нацыянальных непаразуменняў. Ён жа дадаў, што ў гэтым годзе з вялікім поспехам прайшло "Купалле" з удзелам вялікай колькасці калектываў з Беларусі і прадстаўнікоў беларускага ўрада.

У дыскусіі Сяргей Лукашук звярнуў увагу, што сэнсоўным было б абмежаваць удзел, у такіх мерапрыемствах як "Купалле", калектываў з Беларусі - яны і так цяпер едуць да нас вокнамі і дзвярыма. Лепей запрасіць менш, але прафесійных. Хай для нашых калектываў будзе ўзнагародай выступ побач зоркі з Беларусі.

Вольга Сянкевіч з Гайнаўкі дадала, што на фэстах у гмінах нельга выносіць перад публіку міжарганізацыйныя непаразуменні, як гэта рабіў старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі /*"Ёсць людзі, якія гавораць пра смерць Таварыства - не слухайце іх"*/.

Несумненна найбольш жывую дыскусію на супольным пасяджэнні камісій асветы і культуры ГП БГКТ выклікала асветная праблематыка. Візітатар беларускай мовы Тамара Русачык паведаміла, што паводле папярэдніх дадзеных у гэтым навучальным годзе ў пачатковых школах беларускую мову вывучае 3150 дзяцей. Лік гэты можа яшчэ крышку туды або сюды адхіліцца, але ў параўнанні з мінулым годам утрымліваецца на тым жа ўзроўні. Павялічылася навучанне беларускай мовы ў Гарадку - каля 60 вучняў /у мінулым годзе вучылася ўсяго 4 дзяцей - А.М./. У агульным занепадзе навучання беларускай мовы на Беласточчыне, паводле Т. Русачык, вінаваты падзел, які наступіў у беларускай грамадскасці /парламенцкія выбары, адкол "Нівы" ад Беларускага таварыства/. На "Ніву" сёння немагчыма глядзець, працягвала спадарыня візітатар, падпісчыкі ад яе адвярнуліся, а бацькі ў Бельску паслалі сваіх дзяцей не ў "тройку", а ў іншую школу.

Васіль Сакоўскі з Гайнаўкі закрануў справу працы рэкрутацыйнай камісіі, якая накіроўвае выпускнікоў беларускіх ліцэяў у вучэльні на Беларусі. В. Сакоўскі запытаў, хто персанальна працуе ў гэтай камісіі, бо ў гэтым годзе на адзін дэфіцытны кірунак /стаматалогія/ трапілі і такія выпускнікі, у якіх сярэдняя ацэнка, паводле рэгламенту, прымушае задумацца, ці трэба пасылаць іх вучыцца аж за граніцу. У дыскусіі справа гэтая не высветлілася. Выявілася затое, што дзейнічае некалькі рэкрутацыйных камісій і кожная з іх змагалася за сваіх кандыдатаў. Удзельнікі пасяджэння не аспрэчвалі патрэбнасць грамадскай камісіі, якая займалася б справамі нашых студэнтаў у Беларусі. Сцвердзілі аднак, што ніхто лепей не правядзе адбору кандыдатаў, як самі настаўнікі і дырэктары школ. Камісія павінна засяроджацца на забеспячэнні статусу і сацыяльных умоў для студэнтаў у Беларусі, бо гэтыя справы ўсё яшчэ, мякка кажучы, далёкія ад ідэалу.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

P.S. Вярнуўшыся з пасяджэння, даведаўся я ў галоўнага рэдактара, што бельская "тройка" падпісалася ў гэтым годзе на 300 экземпляраў гэтай немагчымай "Нівы". Каб ведаць, што "Ніва" з'яўляецца цалкам выноснай газетай, трэба яе пачытаць. У "тройцы" так робяць.

А.М.

# НАКРУЦІЎ... ФІЛЬМ

Час-часам, дзеля так званага інфармацыйнага плюралізму, манапалістычнае польскае тэлебачанне робіць передачы пра нацыянальныя меншасці ў Польшчы. Нейкі час таму гэтай праблематыкай займаўся вроцлаўскі тэлецэнтр, але яго, здаецца, ліквідавалі, і цяпераka ўсё ў руках Варшавы. І таму Варшава паявілася на Беласточчыне 3 і 4 кастрычніка г.г, каб зрабіць матэрыял пра тутэйшых аўтахтонаў - беларусаў ды іхнія праблемы. Передача мае пайсці ў эфір 14 кастрычніка /значыць, гэты тэкст паяўляецца ўжо post factum/ пад назовам Dalecy, a bliscy - гэта новы цыкл передач пра нацыянальныя меншасці. Дата передачы супадае з пасяджэннем Сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцяў, якое будзе прысвечанае інфармацыйнай палітыцы ў меншасных асяроддзях, і, відаць, невыпадкова передача тая будзе закранаць у першую чаргу ўмовы працы /не матэрыяльныя, а так бы мовіць, грамадска-нацыянальныя/ беларускага тыднёвіка "Ніва".

Ідэю передачы прыдумалі людзі з тэлебачання, а на ейнага выканаўцу з нашага боку галоўны "Нівы" Яўген Мірановіч назначыў мяне. Чаму? - відаць таму, што ўсе іншыя сябры рэдакцыі на той час раз'ехаліся збіраць сапраўдны матэрыял у "Ніву", і застаўся я, каму выпала роля "клеіць дурня" і збіраць матэрыял у газету перад тэлевізійнай камерай. Інакш кажучы, матэрыялу я не назбіраў, але затое пагуляў сабе ў актора-натуршчыка. Жонка мая сумняваецца, ці будзе за гэтую натугу нейкі ганарар...

Пачалі з Бельска, дзе ўдалося намовіць дырэктара "тройкі" Васіля Ляшчынскага і старшыню бацькоўскага камітэта Аляксандра Божку на тэлевізійнае інтэрв'ю. Пра клопаты бельскай школы "Ніва" пісала даволі падрабязна, так што няварта тут пераказваць змест нашых гутарак - пабачым, што з таго застанецца ў передачы. Здымалі нас і на калідоры, і ў класе, і ў кабінеце дырэктара. А перад школай у аб'ектыў ціснулася гурма жэўжыкаў, што якраз была закончыла ўрокі; баюся, што не ўсе яны "змясціліся ў камеры".

У Орлю даехалі недзе каля першай, з гадзінным спазненнем. Але гаспадары тактоўна прамаўчалі - ніколі не вядома, як з тым тэлебачаннем можа павярнуцца. Маімі размоўцамі ў Орлі былі: дырэктарка школы Яўгенія Васілюк, настаўніца беларускай мовы Анна Шыманская, бацькі з бацькоўскага камітэта, войт гміны Міхал Іванчук. У Орлі таксама школьная праблема - гмах новай школы амаль што гатовы, бракуе ўсяго пару мільёнаў, каб дзеці з настаўнікамі перабраліся ў новыя класы... Абфатаграфавалі жахлівыя ўмовы ў старой школе, паказалі каласальны размах новай... А потым арлянцы пачаставалі нас абедам.

Вяртаючыся ў Беласток, варшаўскія фільмоўцы знялі захад сонца над Беласточчынай - чырвоны дыск над узлескам, засмужаным белым дымам з запаленага ссохлага бульбоўніку. Апаратар быў незадаволены, бо ў кадры апынуліся правады электрычнай лініі... Ім, зразумела, хацелася б паказваць Беласточчыну з беларусамі, але без электрычнасці...

На другі дзень - у Дубічы-Царкоўныя. З Мікалаем Панфілюком, верным карэспандэнтам і прыяцелем "Нівы", ранейшай дамоўленасці не было, але, на шчасце, дома яго засталі і матэрыял зрабілі. Пагутарылі мы сабе, перад домам спадара Панфілюка, абапёршыся на плот /жалезны і салідны/. А потым давай круціць так званыя пейзажы з журналістам "Нівы" ў прыдатак. Я хадзіў задам і перадам да камеры, па дарозе і па полі, вецер быў даволі пранізлівы, і ў гэтых пейзажах мяне пачало трэсці і калаціць. З носа пачало капаць...

Потым фільмоўцы пачалі здымаць коні і каровы. А таксама курапаткі, якіх трэба было выганяць з буракоў камянямі і камякамі зямлі... Я прапанаваў варшавякам, каб скочыць у Белавежу і зняць аднаго-двух зуброў - тады вобраз беларускасці быў бы амаль камплектны, але яны невядома чаму адмовіліся...

У Гайнаўку даехалі своечасова і спаткаліся, як было дамоўлена, з дырэктарам ліцэя Яўгенам Сачко. Інтэрв'ю прайшло як не трэба лепш, але аказалася, што плёнка трапілася нейкая паршывая і ўсё трэба было пераздымаць яшчэ раз. Зрабілі гэта, потым я глытануў сотню якую каньяку спадара Сачко /ужо тады ляскацеў зубамі ад прастуды/ і ў бібліятэцы ліцэя пачаў "закругляць" праграму - распавядаць пра сваю працу ў "Ніве" і ўвогуле пра тое, што такое "Ніва" і чаму якраз яна...

Матэрыялу накруцілі на пару гадзін - передача будзе трываць паўгадзіны /як на публіцыстыку - даволі доўга/. Значыць, будуць выбіраць і "рэзаць"... І таму не ведаю, ці прадукт фінальны хоць у палове будзе падобны на тое, што мелася на ўвазе падчас здымак... Тэлебачанне ёсць мастацтва маніпуляцыі публікай.

Нешта аднак жа павінна застацца, як новая якасць у передачах пра нацыянальныя меншасці. Большасць матэрыялу мы зрабілі на беларускай мове /нашы размовы-інтэрв'ю будзе перакладаць дыктар "з-за экрана"/. Паглядзім і паслухаем.

У здымках прынялі ўдзел: Анджэй Панкевіч, Лешак Вялічка, Анджэй Вуйцік /аператар/, Кшыштаф Кубіцкі /гукааператар/ і Дарыюш Дамброўскі /святло/.

**ЯН МАКСІМЮК**

## ІНФАРМАЦЫЯ

У нашай рэдакцыі можна купіць наступныя выданні:

1. „Кругавая чара" Яна Чыквіна (цана 20.000 зл.)
2. „Самасей" Сакрата Яновіча (20.000 зл.)
3. „Віры" Георгія Валкавыцкага (20.000 зл.)
4. „Родны схоў" Віктара Шведа (5.000 зл.)
5. „Маці і сын" Л.і Ю. Геніюшаў (20.000 зл.)
6. „Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie" ks. Grzegorza Sosny (30.0000zł)
7. „Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej" (15.000zł.)
8. „Podróż daremna. Szkice o poezji białoruskojęzycznej w Polsce" Teresy Zaniewskiej (20.000 zł)
9. „Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi" Jerzego Turonka (40.000 zł)

Літаб'яднанне „Белавежа" высылае свае выданні па пошце. Заказы можна накіроўваць у нашу рэдакцыю.

# Czasopis

## У КАСТРЫЧНІКУ

Адкрываецца выданне **чарнобыльскай тэмай.** Рэдактары змяшчаюць зварот гродзенскага аддзела дабрачыннай грамадскай арганізацыі „Дзеці ў бядзе", якая збірае сродкі на дапамогу дзецям пацярпелым ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы (хворым на рака).

**Мікола Сахарэвіч** дае занатоўку пра „Фестываль украінскай культуры Падляшша" ў Мельніку.

**Юрка Каліна** заканчвае цыкл гістарычных нарысаў пра беларускі палітычны рух у пачатках II Рэчыпаспалітай (заключная частка датычыць судовай справы 45-ці беларусаў, засуджаных за антыдзяржаўную дзейнасць у Беластоку ў 1923 г.).

**Славамір Іванюк** гутарыць з доктарам Анатолем Адзіевічам — ініцыятарам і арганізатарам пабудовы скансэну народнага (беларускага) будаўніцтва ў Белавежы. Скансэну пагражае ліквідацыя — некаторыя жыхары Белавежы могуць забраць ад скансэну зямлю.

**Дарота Кузміч** піша пра Міжнародную школу беларусістыкі, якая вяла свае заняткі ўлетку г.г. у Менску.

**Сакрат Яновіч** дае рэцэнзію першага нумара квартальніка „Rubieże". З „сакрацііяны" таксама — працяг рамана „Dolina pełna losu".

Рэдактары змяшчаюць фотарэпартаж з пераносу мошчаў Св. Мучаніка-Дзіцятка Гаўрыіла з Гродна ў Беласток.

Выданне багата ілюстраванае фатаграфіямі і рысункамі **Лёніка Тарасэвіча.**

**(ЯМ)**

# ДВА ВЕРАСНЁВЫЯ ТЫДНІ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Мастацкія пленэры ў Белавежы працягваюцца. Сёлета, у днях 12—27 верасня, праходзіў чарговы, дваццаць сёмы — на гэты раз пад лозунгам „Мастацкія сустрэчы пагранічча". Прымала ў ім удзел дваццаць мастакоў з Польшчы, а таксама з Беларусі, Літвы і нават з Узбекістана. Варта адзначыць яшчэ і тое, што ў сёлетнім пленэры ўдзельнічала даволі вялікая група, бо аж з шасці чалавек, маладых мастакоў, якія ўсяго некалькі месяцаў таму назад пакінулі муры вышэйшых мастацкіх устаноў. І трэба сказаць, што некаторыя з іх падаюць вялікую надзею на будучыню. Камісарам пленэру быў Міраслаў Галамбёўскі з Беластока. Як заўсёды, плён двухтыднёвага малявання быў паказаны на выстаўцы ў прыродазнаўчым музеі, дзе можна было паглядзець 45 карцін. Упершыню хіба выстаўка ў Белавежы мела надпісы — падаваліся загалоўкі прац, прозвішчы іх аўтараў і назвы мясцовасцей, у якіх тыя ж мастакі пастаянна жывуць. Брава!

Палотны, якія найбольш на выстаўцы разглядаліся, дыскутаваліся і абсуджаліся, і то зусім не з-за іх артыстычнай вартасці, гэта дзве працы Кшыштафа Кушая з Лодзі — адна з загалоўкам „Кошка-рысь і дзікія свінні", другая без загалоўка. На абодвух палотнах, пасярэдзіне, красуюцца дзве прыгожыя жанчыны, якія дэманструюць свае палавыя органы. Па іх баках знаходзяцца раз'юшаныя лясныя ці мо міфічныя звяры, а таксама... самалёты. Зразумела, мала хто дашукоўваўся сэнсу ў гэтых палотнах, а перш за ўсё гутарка ішла аб парнаграфіі. Узровень эмоцый некаторых разглядаючых палотны жанчын, пераважна старэйшых, чамусьці напамінаў мне раз'юшанасць звяроў з абразоў, а зноў час аглядання гэтых палотнаў іншымі жанчынамі напамінаў мне хуткасць рэактыўных самалётаў. Што ж, вывад можа быць адзін: жаночыя палавыя органы небяспечная рэч! І мо таму адна з працаўніц музея хацела заклеіць тыя ж „дэталі" пластырам!!

Даволі цікава адрэкамендаваліся троы мастакі з Гродна. Пятра Янушкевіча захапіла ікона на дубе, якая паявілася ў Белавежы пару гадоў таму назад. Зрабіў ён трыпціх з ёй, адлюстроўваючы боль праразання і слодыч існавання. Аляксандр Масяйкоў намаляваў простымі сродкамі, але як жа захапляюча і арыгінальна, статак зуброў ноччу. Далей, паказаў ён нам світанак у пушчы; невыразныя галіны дрэў укладваюцца ва ўзоры і напамінаюць нейкія мала рэалістычныя постаці. Могуць таксама прыцягнуць зрок і пакрытыя снегам дрэвы, зразумела, што не верасьнёвым! Найлепш усё ж з гродзенцаў паказаўся, на маю думку, Мікола Бандарчук. Ягоныя „расплываючыеся" зубры, алені ці лясныя нетры ў нечым напамінаюць сюррэалістычныя палотны Сальвадора Далі, але больш з духа, чым з мастацкіх сродкаў. Я не помню, каб хтосьці раней гэтак прадстаўляў прыроду Белавежскай пушчы. Мастак паказаў і больш рэалістычныя пейзажы — з групай дубоў ля музея.

З двух вільнючак больш падабалася мне Валянціна Скаржынская, якая малюе ў рэалістычным духу, але адначасова небанальна (яе букет кветак дужа напамінае мне такія ж букеты, маляваныя белавежскай мастачкай Тамарай Тарасевіч). Івона Таровін у сваю чаргу цікавіцца целам жанчыны і прадстаўляе яе ў розных сітуацыях і розных паставах. Вітас Жыргуліс з Каўнаса ахвотна ўцякае ў сімвалізм, схематызм нават — з добрым эфектам (палотны: „Вада", „Два ссечаныя дрэвы"). Часам спалучае ён амаль фатаграфічны рэалізм са схематызмам (палатно „Запаведнік") — яшчэ з лепшым поспехам.

Цікава малюе і Ігар Гуленка з Ташкента. Яго абразы поўныя метафары, сімволікі, але адначасова мастак выявіў сябе як удалага пейзажыста (краявід з рэчкай).

З польскіх мастакоў найцікавей паказаліся Мечыслаў Мазур з Ломжы (з цікавым трыпціхам „Учора, сёння, заўтра", нешаблонна аддаючым дэградацыю прыроды), Тэрэса Бейнаровіч-Кавяза з Аўгустова (паказала сімвалічны нурт, абапіраючыся на элементах прыроды, краявіду; цікавая каларытная развязка), Бенедыкт Краплеўскі з Вроцлава (як і на адным з ранейшых пленэраў адзначыўся ён цікавымі, каларытнымі рашэннямі і сімвалічна-метафарычнымі тэмамі, з выкарыстаннем матываў грэчаскага будаўніцтва і праваслаўнай сімволікі).

Могуць падабацца і працы беластаччан — Рышарда Кузышына, Аліцыі Хароцей, Антона Шыманюка, Януша Дэбіса ці Мар'і Крашэўскай, хаця нічым новым яны на гэты раз не здзівілі.

Лепш падабаліся наведвальнікам музея палотны Малгажаты Галась з Кракава і Пшэмыслава Пінталя з Вроцлава.

У той самы дзень, калі закончыўся гэты пленэр, у Белавежы пачаўся другі, нейкім чынам канкурэнтны, арганізаваны беластоцкімі і пераважна для беластоцкіх мастакоў. У ім прымае ўдзел 10 чалавек. Гэтак было і ў мінулым годзе. Шкада толькі, што працы з другога пленэру не паказваліся на выстаўцы ў Белавежы. Ці гэтаксама будзе і сёлета?

**ПЁТР БАЙКО**

 

# БАЛАХОВІЧ

*працяг са стар. 4.*

БНР Ластоўскага, які падпісаў дамову з бальшавікамі аб супрацоўніцтве і ўсімі сіламі шкодзіў палякам, а перш за ўсё Балаховічу. У выніку ягоных інтрыгаў З'езд Случчыны замест кінуць усе сілы на Менск, пачаў дыскутаваць, ці наогул ісці з Балаховічам.

Слуцкая Брыгада пачала фармавацца, калі Балаховіч быў ужо разбіты. Ягоныя пераможцы раздушылі і случчакоў.

Па-другое: план аперацыі абапіраўся на адной прадпасылцы — польскі генштаб меркаваў, што Врангель пераможа бальшавікоў, а прынамсі звяжа іхнія сілы. Тым часам, калі Балаховіч пачынаў свой паход, паход Врангеля ўжо праваліўся.

Па-трэцяе: армія Балаховіча не магла ваяваць без падтрымкі палякаў, тым часам воляй Сейма і ўрада было прымірыцца з Расіяй, няхай сабе і савецкай.

Балаховіч і Жалігоўскі вялі прыватную вайну Пілсудскага. Але і самы магутны чалавек у Польшчы не мог пайсці супраць волі народа. Колішняя Рэчпаспалітая не адрадзілася, бо не хацелі яе палякі. Беларусы, літоўцы і расейцы тут ні пры чым.

Наступленні Булак-Балаховіча і Жалігоўскага загразлі ў той самы дзень — 18 лістапада. Як піша відавочнік Пілсудскі: „... У гэты крытычны момант я разгубіўся і ўсумніўся ва ўсё. Хто прыязджаў з Варшавы, той гаварыў, што ён не мае плана і быццам прыгнечаны здарэннямі, і крык з-за мяжы, быццам зусім яго звіхнуў. Апусціў рукі".

Дык няма дзіву. Якія ж тут планы? Чаго вартая Вільня без Менска? Адным махам упала Беларусь, Вялікае княства Літоўскае і колішняя Рэчпаспалітая.

*(заканчэнне будзе)*

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**



## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

*Працяг са стар. 5.*

На зямлі (вярба над ракой Белай). *Ніва*, 30.03.1980 г., н-р 13, рыс.

З альбома натураліста. Ніва, 27.04.1980 г., н-р 17, рыс.

Па слядах жыцця. Ніва, 27.04.1980 г., н-р 17.

З альбома натураліста. Ніва, 8.06.1980 г., н-р 23, рыс

Восень. Ніва, 19.10.1980 г., н-р 42, рыс.

Лес на пясках (каля Плюціч). Ніва, 9.11.1980 г., н-р 45.

Геамарфалогія аховы прыроды ваколіц Бельска-Падляшскага. Беларускі каляндар на 1981 г., с. 240-253 (памылкова напісана ў загалоўку артыкула — Іхнеалогія).

Форты пачатку вегетацыі. Ніва, 22.03.1981 г., н-р 12, рыс.

Краявіды і арганізмы (лес вёскі Храбалы). Ніва, 22.11.1981 г., н-р 47, рыс.

Камень у краявідзе. Ніва, 13.12.1981 г., н-р 50, рыс.



# ПАМЯЦІ ЮРКІ ЛУЦКЕВІЧА

*Працяг са стар. 1.*

Захад. Лёс кінуў яго ў зруйнаваную Варшаву, але пад канец 1945 года агенты НКУС выкрылі групу беларусаў, у тым ліку і братоў Луцкевічаў - Юрку і Лявона. Пачалося следства, вынік якога можна было прадбачыць. Юрка атрымаў 25 гадоў лагеру за здраду і супрацоўніцтва з ворагам. Зняволенне адбываў ён на далёкай Калыме.

Пасля смерці Сталіна вызвалілі яго адным з апошніх палітычных толькі ў 1957 г. Але гэта была ўсяго толькі амністыя без ніякай рэабілітацыі. І таму, калі Юрка Луцкевіч вярнуўся ў родную Вільню, меў ён у кішэні так званы "воўчы пашпарт", дакумент у якім выразна сцвярджалася, што ён быў асу-джаны за "здраду радзімы". А гэта значыла, што ён злачынца, паслугач ворага і т.п. Аб нармальным жыцці з падобнымі паперамі не было мовы. Можна было б напэўна і не звяртаць увагі на гэтую непрыемную акалічнасць, але ў Юркі была сям'я, трое дзяцей. Юрка хацеў, каб яны мелі нармальную будучыню /хаця аб нармальнасці ў савецкіх таталітарных умовах вельмі цяжка гаварыць/. Таму старшы Луцкевіч неаднойчы намагаўся атрымаць ад КДБ рэабілітацыю, але ўсе ягоныя спробы не прывялі да нейкіх канкрэтных пазітыўных вынікаў. Ды і шчыра кажучы, не маглі прывесці да пажаданай рэабілітацыі. Практычна гэтыя органы рэжыму здзекваліся з немаладога ўжо чалавека, які раз за разам, з упартасцю былога зэка прабаваў знайсці справядлівасць там, дзе яе ніколі не было, ды і не магло быць.

Пасля вяртання з Калымы Юрка разам са сваім малодшым братам Лявонам прабавалі высветліць лёс свайго бацькі, Антона Луцкевіча. Але ўсе іхнія спробы прывялі ўсяго толькі да кароткага ліста за подпісам нейкага другараднага чыноўніка з КДБ. Ліст гэты лаканічна інфармаваў, што іх бацька памёр нібыта ў 1946 годзе недзе ў Казахстане ў ссылцы. Звычайная адпіска, якая за нейкі час стала адзінай рэальнай крыніцай інфармацыі аб апошніх гадах жыцця вялікага беларуса, аднаго з заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 г., прадвесніцы сённяшняй беларускай незалежнасці.

Віленскае беларускае грамадства панесла вялікую ўтрату. Адыйшоў чалавек, які ўвасабляў сабой беларускасць Вільні, член выдатнага беларускага роду, роду беларускіх адраджэнцаў. Юрка Луцкевіч быў простым, чуллівым чалавекам, сумленным беларусам, які не мог намагаўся зберагаць і бараніць ідэі беларускага адраджэння, ідэі, за якія аддаў усё сваё жыццё без астатку яго вялікі бацька.

Але славуты віленскі беларускі род не вымер. Актыўна працуе на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння малодшы з братоў Луцкевічаў, Лявон. У беларускі рух уключыліся дзеці Юркі: сын Ясь і дачка Алеся. Беларуская Вільня жыве, жыве і плённа дзейнічае ў яе асяроддзі славуты і вялікі род Луцкевічаў.

**МІКОЛА ІВАНОЎ**




**Шаноўны рэдактар.**

Ваша каляжанка Ада Чачуга прыцягнула маю ўвагу да 21 нумара "Нівы", дзе надрукаваны дзённік Сакрата Яновіча, у якім маецца спасылка на Беларускую Бібліятэку імя Францыска Скарыны ў Лёндане, а таксама на айца Аляксандра Надсана, хаця ягонае імя й не называецца.

Як сакратар Апякунскай Управы Бібліятэкі я адчуваю неабходным напісаць Вам, каб выказаць занепакоенасць тымі словамі, якімі карыстаецца спадар Сакрат Яновіч. Ён сьцвярджае, што яны належаць да д-ру Юрыю Туронку. На шчасце д-р Туронак быў нядаўна ў Лёндане, і такім чынам я меў мажлівасьць праверыць у яго правільнасьць працытаваных слоў. Ён, як і я, быў зьбянтэжаны тонам гэтага абзацу ў асноўным, і выкарыстаньнем слоў "анахранічная скупасьць" у прыватнасьці.

Я ўважаю, што сп-р Яновіч большасьць свайго жыцьця пражыў у камуністычнай сістэме, дзе грошы ня мелі рэальнай вартасьці; і вось чаму ён, мусіць, не разумее прынцыпаў дбайнага размеркаваньня сродкаў на карысьць будучым пакаленьням.

Сп-ру Яновічу варта аднак прыгадаць, што Бібліятэка правяла колькасьць невялікіх міжнародных канферэнцый на працягу апошніх гадоў /з бясплатным уладкаваньнем гасьцей з-за мяжы/ і тое, што яна прадаўжае рабіць наяўным для сваіх чытачоў шырокае кола публікацый пра Беларусь, ізноў жа цалкам бясплатна. Бібліятэка ахвяруе намнога больш па абменных сувязях у бібліятэкі Беларусі, чым атрымоўвае наўзамен.

Сп-ру Яновічу таксама трэба нагадаць, што ён неаднаразова меў мажлівасьць скарыстацца гасьціннасьцю Бібліятэкі, і ў адным выпадку, як я ўспамінаю, меў патрэбу, каб за яго заплацілі істотную суму з-за перавышэньня вагі багажа пры вяртаньні лётам у Польшчу.

Безумоўна, сп-р Яновіч мае права на сваю апінію, але да таго, як выражаць яе публічна, было б карысным абмеркаваць, ці вартая яна друку, бо папера сьцерпіць усё.

З найлепшымі пажаданьнямі,
Шчыра ваш,

**JIM DINGLEY**
Старшыня Англа-Беларускага Таварыства
Сакратар Апякунскай Управы Бібліятэкі імя Францыска Скарыны ды Музэя

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# РЫБАЛОЎ

Было лета, і гарадская ўправа не дадумалася яшчэ паставіць табліцы, забараняючыя лавіць рыбу ў гарадскіх ставах.

Дык і прыходзіў ён сюды штодзень: са сваім неадлучным складаным зэдлічкам, дзвюма-трыма вудачкамі, ды вялікім кудлатым чорным сабакам. Так па праўдзе, непатрэбная яму гэта рыба. Маленькая і смярдзіць не рыбай. Але ўпарта сядзіць ён на зэдлічку і цэлы дзень яе ловіць. Адну выкіне назад у стаў, другую аддасць дзецям. "Pański pies takiej nie je", - чуецца збоку лісліва каментарый. - A wędki, wędki zobacz jakie długie i piękne", - дадае іншы голас...

* * *

Уваходзіў ён у жыццё з вялікай верай у будучыню. Выкарыстаў шанц мінулай эпохі. У шаснаццаць гадоў уцёк з вёскі і, davучваючыся ў горадзе, у дваццаць пяць дайшоў да інжынера. Быў па-сялянску старанны і працавіты, і начальства хутка заўважыла яго. У трыццаць пяць быў ужо дырэктарам прадпрыемства. Не ведаў замежных моваў, не разбіраўся ў сучаснай музыцы. Усяго сябе аддаваў працы, дык і не было калі займацца музыкай. Не заўсёды на "дзённік" дагэты паспяваў. Быў затое дасканалым арганізатарам і заўсёды ведаў, што мае рабіць.

А цяпер ужо не ведаў. Ніяк не мог адаптавацца да новых умоў. Некаторыя калегі яго хуценька перафарбаваліся, нават сталі бізнесменамі. А ён так не патрапіў. Ды і не хацеў, зрэшты.

Былыя сябры падсмейваліся з яго. Тыя, якіх ён знаходзіў і прымаў на работу, якім даваў прэміі, вырываў ад ваяводы кватэры, усаджваў дзяцей у прадшколлі. Сёння яны вырашылі аб усім. І вырашылі, што пакольні не "дарос" ён яшчэ да пенсіі, то мае ж ужо патрэбны стаж. Дык хай ідзе на прыспешаную пенсію!

* * *

З працы "хуткая дапамога" завезла яго адразу на рэанімацыю. Тыповы інфаркт, завал сэрца. У бальніцы праваляўся тры месяцы, лекары ўставілі ў сэрца стымулятар, ці як яго там, разрушнік, прызналі рэнту і параілі: вудачкі, паветра плюс штодзень кілішак каньяку. Ніякай працы!

І вось ужо два гады ён пенсіянерам. Калі працаваў, быў вельмі абавязковым чалавекам. Такім застаўся да сёння. Усё выконвае, як лекары загадалі. З зэдлічкам у руках пераходзіць ён паволі з аднаго месца над ставам у другое, шукаючы цень і ахалоду. Ой, далося ў знакі сёлетняе лета сардэчнікам! На галаве заўсёды капялюш. А каля яго сабака. Цярпліва сядзіць побач са сваім панам, чакае цэлы дзень. Не кідаецца да людзей, але любіць сабе гаўкнуць, калі нехта праходзіць побач: не перашкаджайце, маўляў, майму пану лавіць рыбу! З суседняй лавачкі тады чуваць: "Mądry pies!"

* * *

Сябры пакінулі яго. У хваробе чалавек заўсёды самотны. А мо ім было сорамна, што давялі яго да хваробы... Застаўся толькі яго верны сабака, ну, і яшчэ жонка. Рэгулярна апоўдні яна прыносіць яму сюды, да става, абед. "Ale pan ma idealną żonę, któż by to nosił", - даходзіць да яго зноў нечый голас. Жонка сапраўды ў яго добрая. Пакінуўшы яму абед і маленькую бутэлечку з каньяком, яна адыходзіць, прагульваецца вакол става, не хоча ў гэты момант перашкаджаць мужу. А ён раскладае абед, на каленях і, з'еўшы яго, пачынае частаваць кілішкам тых пенсіянераў з суседняй лавачкі, якія сталі сёння яго адзінымі сябрамі. Так папраўдзе, якія яны яму сябры... Ці ж ён сляпы? Даўно заўважыў, што жонка носіць яму той каньяк, і, як мухі, кружацца вакол яго, выглядаюць яго жонку больш, як ён сам. Слухаючы іх, думае часамі, што ён у тэатры. Але ўсё ж налівае ім - больш з літасці да самога сябе.

Канчаецца дробная выпіўка, і жонка збірае ўсё, ідзе дахаты. Неўзабаве адыходзяць і "кумплі". А ён застаецца над ставам аж да вечара. З сабакам і сваімі рыбкамі, нямымі сведкамі яго невясёлых роздумаў уголас.

Як хутка бяжыць час, як змяняецца ўсё навокал... І праўда мае штораз іншае адценне. Дык як тут дагнаць яе, гэтую праўду?..

* * *

Ніхто не ведае калі і як, але кожны з нас можа ў адзін момант стацца рыбаловам.

**АДА ЧАЧУГА**



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## МАЕ КАНІКУЛЫ

Летнія канікулы я правяла дома, у Бельску, і на вёсцы ў маёй бабулі. Я дапамагала маме. Кожны дзень хадзіла ў краму, прыбірала кватэру, мыла посуд, палівала кветкі. На вёсцы я хадзіла ў лес па ягады і грыбы. Калі была пагода, з сяброўкамі я хадзіла на рэчку купацца і загараць. Бабулі я дапамагала сушыць сена і палоць агарод. У свабодны час я глядзела телебачанне, чытала цікавыя кніжкі, часопісы і газеты. Летнія канікулы я правяла цікава і весела.

ГАННА ДАВІДЗЮК,

6"ц" клас, школа ў Бельску

**УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ**

## ЛІСЦЕ

Восень прайшла пралескамі,
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
У паветра ўзнімаючы лісце,
Струменьчыкам тонкім лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце.
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.



*Перад зімой.* *Фота Міры Лукшы*

**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ**

## ІШЛА МЫШКА І ПЫТАЛА...

Ішла мышка і пытала,
Дзе знайсці мукі і сала.
Паказаў казёл бародкай:
- За высокай загародкай,
Супроць млына, на узгорку,
Жыве коцік на задворку.
Паважае ён гасцей,
Хлебасол ён, дабрадзей.
Мышка ціха адказала:
- Пэўна, ён не мае сала, -
Потым глянула на горку
І хутчэй шмыгнула ў норку.

## ЛІСА ЕДЗЕ НА КІРМАШ

Тры стракатыя шашкі
У воз запрэгліся цяжкі,
На іх пот, як раса,
Звоняць бомы над дугой,
А на возе ліса
Злосна тупае нагой:

- Гультаі ж вы, вазакі,
Што ж вы так марудзіце?!
Дам вам пугай пад бакі -
Спрытна бегаць будзеце.

Хоць ты колы злезь ды змаж,
Так скрыпяць, рассохліся.
На птушыны торг-кірмаш
Мы, напэўна, спознімся...

Як рванулі шашкі
Цераз поле па раллі,
Ажно падаюць мяшкі,
Ажно пыл пыліць.

Кажа рыжая ліса:
- Мо патрапім у пару?..
Накупляю я аўса,
Куркам кашы навару.

Запрашу гасцей,
Пасаджу за стол,
Няхай ходзяць часцей
Да мяне ў лісіны дол.

Як рванулі шашкі
На птушыны кірмаш,
Ажно воз цяжкі
Падкідала наўсцяж.

Імчаліся па шашы
Забіякі-малышы,
А на тым кірмашы -
Ні жывой душы:
Гусі, качкі, кураняты
Паўцякалі ад зубатых.

## ДЗЯДЗЬКА ЯЗЭП



У народзе пра яго хадзілі розныя чуткі. Гаварылі, што ён ракету майструе, каб паляцець на Месяц. І ўдакладнялі: падрыхтаваў ужо малюнкі і чарцяжы гэтай ракеты. Дзеці, як толькі прыкмячалі яго высокую постаць на старым бальшаку ці сцяжыне, што вяла да іх вёскі, першыя крычалі: "Дзядзька Язэп ідзе!" і весёлаю гурмою беглі насустрач. А дзядзька Язэп з радасцю страчаў малых. Здымаў з пляча палатняную торбу, садзіўся на цёплы прыдарожны камень, раскладваў побач свае альбомы для малюнкаў. І падоўгу распавядаў дзецям дзіўныя гісторыі, казкі, паданні. Самыя дапытлівыя праглі дазнацца, а што там, у палатнянай торбе, якія скарбы прыхаваны. Дзядзька Язэп даверліва ўсміхаўся і паказваў. Чаго там толькі не было, у торбе! Старыя паржавелыя наканечнікі стрэл, гліняныя ўзорчатыя чарапкі, пажоўклыя кніжкі, шкляныя пацеркі, срэбныя манеты.

Дзе ён знайшоў усё гэта, пыталіся дзеці. І дзядзька Язэп паказваў над рэчкай Мнютвай вялікую гару-валатоўку, ці, як яе называюць, гарадзішча. Жылі тут сотні гадоў назад нашы продкі. Выбіралі яны для жытла самае высокае крутое месца, найчасцей дзе-небудзь каля ракі ці возера, каб ад ворагаў бараніцца было зручней. Даўно ўжо няма ні тых людзей, ні іхняга ўмацавання. Толькі засталіся ў чорнай зямлі гэтыя скарбы - наканечнікі стрэл, чарапкі ганчарных вырабаў, пацеркі, розныя манеты. Шмат тайнаў хавае гарадзішча. А выглядала яно ў тыя далёкія гады так...

Дзядзка Язэп раскрываў свой маляўнічы альбом, і перад вачамі дзяцей адкрываўся казачны драўляны горад з высокімі вежамі і непрыступнымі сценамі.

Хто ж ён такі, дзядзька Язэп, слава пра якога неслася па ўсёй Беларусі? Што гэта за чалавек, які хацеў дазнацца, ці ёсць жыццё на далёкіх планетах, і разгадаць тайны старых гарадзішчаў?

Нарадзіўся Язэп Нарцызавіч Драздовіч у 1888 годзе ў засценку Пунькі былой Віленскай губерні. Дзяцінства яго праходзіла на ўскрайку Галубіцкай пушчы, сярод прыроды, мора кветак і птушыных спеваў. Маці цешылася з малога Юзіка, які падоўгу мог слухаць яе казкі і песні, а ў сцюдзёныя зімовыя вечары глядзеў, як зачараваны, на зорнае неба і срэбны ражок месяца. Рана застаўся без бацькі. А калі пасталеў, сцежкі прывялі яго ў Вільню, у рысавальную школу: дужа хацеў стаць мастаком. Потым служыў у царскай арміі і нарэшце вярнуўся на радзіму. І ўвесь гэты час маляваў, пеша хадзіў па шляхах сваёй бацькаўшчыны.

Усім захапляўся Язэп Драздовіч: і вершы пісаў, і малюнкамі аздабляў беларускія кніжкі для дзяцей, і займаўся разьбой па дрэву, і народныя песні збіраў. Пісаў карціны пра космас, пра жыццё на Марсе і Сатурне. А колькі распісных маляваных дываноў пакінуў ён пасля сябе ў вясковых хатах! Для малых Ясікаў і Марынак маляваў лісічак-сястрычак, вясёлых зайчанятак, для дарослых - таямнічыя старасвецкія замкі з начнымі краявідамі. І ўсюды на тых малюнках свяціўся срэбны месячык. Мастак нават напісаў невялічкі верш "Веташок".

*Ізноў на поўначы мне свеціць*
*Скрозь шыбы ясны веташок,*
*На шызым небе след свой меціць,*
*Як пазалочаны ражок.*
*Скажы мне, ветах, веташок,*
*Куды імкнешся ты, дружок?*
*Мо, як і я, імкнешся ты,*
*Што й сам не ведаеш куды.*

Апошнія гады Язэп Драздовіч жыў на сваёй Дзісеншчыне, ці, як сам пісаў у сваім дзённіку, між рэчкамі Мнютай Аўтай. Зараслі ўжо сцежкі, па якіх некалі хадзіў мастак. Ужо не ўбачым яго высокай постаці ў саламяным капелюшы, з кійком у руцэ. Усё мае пачатак, усё мае заканчэнне. І толькі карціны, замалёўкі, альбомы застаюцца назаўсёды з намі, як жывое водгулле таго часу, як сведчанне, што быў такі чалавек. І яшчэ і як запавет усім нам, што мы годны народ, мы - беларусы, са сваім слаўным мінулым, сваёй гісторыяй.

**АЛЯКСЕЙ МАРАЧКІН, мастак**



## СЯЛО БАЯЗЛІЎЦАЎ
КАЗКА

Было гэта ці не - мяркуйце самі. Аднойчы Мядзведзь доўга шукаў мёду, але так і не знайшоў. Раззлаваўся, разлютаваўся і бягом у сяло.

- Гэй, сяляне! - крычаў, роў Мядзведзь. - Хутчэй, хутчэй прынясіце мёду хто колькі мае! Інакш зраблю так, як бацька! Гэй, сяляне, нясіце!

- Вой, вой, братка-мішка, не рабі так, просім цябе, зараз прынясём, - кажуць сяляне і прыносяць хто колькі можа. Прыносяць, а Мядзведзь есць, падскоквае ад радасці, захаплення, прытанцоўвае, зноў есць і есць.

Наядаецца і, задаволены, ідзе ў бок лесу. У гэты час адзін селянін, не такі баязлівы, як астатнія, пытае:

- Братка-мішка, скажы, а што ж зрабіў твой бацька?..

- Нічога, братка-селянін. Аднойчы бацька прыйшоў у сяло, папрасіў мёду, доўга чакаў, яму не далі, ён заплакаў, а потым завярнуўся і пайшоў. Вось як было...

Засмяяўся Мядзведзь і пабег у лес.

РАЛАНД ШАРАЯН

## ВОЎК

На працягу ўсёй гісторыі чалавецтва сляды людзей і ваўкоў, якія палявалі на адных і тых жа жывёл, разам абжывалі прасторы нагор'яў, стэпаў, тундры, пераплятаюся. У чалавека была магчымасць добра прыглядзецца да свайго сталага спадарожніка і суседа. Нашы продкі былі людзьмі назіральнымі і не маглі не заўважыць, што воўк вылучаецца сярод іншых сваіх суродзічаў, перш за ўсё розумам. (Цяперашнія вучоныя сцвярджаюць, што інтэлект ваўка адпавядае дэльфінаваму.) У беларускай народнай казцы "Шкляныя горы", напрыклад, з усіх звяроў і птушак толькі воўк ведае, дзе знаходзяцца шкляныя горы. Ды і ў іншых казках ён дапамагае героям сваёй кемлівасцю.

Нашы продкі, якія жылі родамі, плямёнамі, не маглі не звярнуць увагу і на тое, што ваўкі большую частку свайго жыцця праводзяць у гурце. Паводле адной мангольскай легенды воўк быў продкам гэтага народа. Прадзіцелькай старажытных цюркаў лічыцца ваўчыца. Шмат якія плямёны з усіх амаль кантынентаў абралі разумных драпежнікаў сваімі татэмамі. (Татэм - жывёліна, з якой яны пачуваліся, вядома, не ў кроўнай, але нейкай звышнатуральнай роднасці.) І нашы продкі неўры былі перакананы, што іх татэм дапаможа ў складаных жыццёвых абставінах і абароніць. Гэта толькі цяпер чалавек уяўляе сябе разумнейшым за жывёл, а свае пралікі ў адносінах з прыродай звальвае на ваўка. Чалавек, як мы самі можам пераканацца, не змог заміж ніць ваўка, створанага самой прыродай рэгулятара колькасці дзікіх капытных жывёл, нягледзячы на сістэмы запаведнікаў, заказнікаў і паляўнічых гаспадарак.

Няпроста складваліся адносіны неўраў з ваўкамі. Пра гэта можна даведацца з беларускіх загадак, прымавак, паданняў і казак. А менавіта воўк у казцы "Воўк" здабывае "жывучую вадукроў" і ажыўляе даверлівага хлопца, забітага роднымі братамі.

## ГЛІНЯНАЯ ЦАЦКА

Яшчэ параўнальна не так даўно практычна на кожным рынку, дзе ганчары прадавалі свае вырабы, можна было бачыць цэлыя россыпы гліняных цацак-свістулек: пеўнікаў, конікаў, козлікаў, лялек. Гэтыя танныя і даступныя забаўкі сотнямі ляпілі ў кожным ганчарным цэнтры. Пры ўсёй разнастайнасці почыркаў кожнага з майстроў-цацачнікаў іх вырабы ўсё ж вызначаліся і агульныя асаблівасцямі: гранічнай спрошчанасцю і абагульненасцю форм, адметным колерам палівы - празрыстай, зялёнай, карычневай.



Сёння традыцыйны промысел па вырабу гліняных цацак-свістулек практычна заняпаў. Але рост цікавасці да нашай культурнай спадчыны, характэрны для апошняга часу, дае надзею на яго адраджэнне. Ляпіць цацкі бярэцца моладзь, асабліва майстры Мастацкага фонду Беларусі. Сярод іх найбольшай папулярнасцю карыстаецца Міхась Ржэвуцкі з Нёманіцы Барысаўскага раёна. Добра засвоіўшы традыцыі беларускай народнай глінянай цацкі, на іх аснове ён стварае абагульненыя варыянты яе, узяўшы ўсё лепшае ад колішніх вырабаў народных майстроў-ганчароў. Гліняныя цацкі Ржэвуцкага і іншых майстроў Мастацкага фонду Беларусі не залежваюцца ў магазінах, іх ахвотна раскупляюць на розных кірмашах і святах як арыгінальныя мастацкія творы і сувеніры.

Я. САХУТА




## ВОКА

Радужная абалонка, вейкі, бровы, слёзы прызначаны для абароны вачэй ад іншародных цел і пашкоджанняў. Брыво - каб уберагчы вочы ад вадкасці (дажджу, поту). Вейкі, якіх на верхнім павеку амаль дзве сотні, а на ніжнім не менш ста, затрымліваюць пыл, што ляціць у вочы, а таксама ўсялякія кроплі. Самі павекі міргаюць 3-7 разоў у хвіліну, каб змыць з рагавіцы вока ўсё тое, што не змаглі затрымаць бровы і вейкі, і ў любы момант гатовыя ў тысячныя долі секунды прыкрыць вока ад пашкоджання. Нават радужная абалонка, якая ўтварае зрэнку вока і робіць вочы асабліва прыгожымі, таксама прызначана ў першую чаргу ўберагчы тканкі вока ад залішняга ўздзеяння навакольнага асяроддзя.

І ўсё ж, нягледзячы на такую "эшаланіраваную абарону", народная мудрасць раіць берагчы зрэнку вока - дзірачку ўсяго ад 1,5 да 7-8 міліметраў у дыяметры. Дзірачку, праз якую чалавеку адчыняецца амаль увесь белы свет: 96-98 прац. усёй інфармацыі аб наваколлі атрымлівае чалавек праз зрэнку. Вось чаму такімі бездапаможнымі становяцца людзі, калі раптоўна губляюць зрок.

Звычайна вока чалавека параўноўваюць з фотаапаратам. І гэта параўнанне па тэхніка-механічных паказчыках у большасці выпадкаў не на карысць вока. Што датычыцца "аўтаматыкі", то тут воку пакуль што няма роўных. Але фізікі сцвярджаюць, што вочы чалавека - не самая лепшая аптычная сістэма, і знаходзяць у ёй досыць грунтоўныя заганы. Хімікі таксама не лічаць сятчатку вока самай дасканалай "фотаплёнкай", як па света- і колераадчувальнасці, так і па выразнасці адлюстравання на ёй. Аднак гэтыя паказчыкі можна ў некалькі разоў павялічыць. Вядомы так званы прафесіянальны зрок, якім валодаюць майстры сваёй справы. Напрыклад, славутыя фламандскія ткачыхі габеленаў адрознівалі 400-600 адценняў аднаго колеру, між тым як звычайны чалавек адрознівае не больш 25-30.

Г. ШЭРШАНЬ



*Мурык з Тыневіч.*
*Фота Міколы Ваўранюка*

## ХТО САМЫ СМЕЛЫ?

Жывёліны, як і людзі, па-рознаму сустракаюць небяспеку. Вось, напрыклад, як рэагуюць некаторыя жывёліны на сустрэчу са змяёй.

Птушкі адчуваюць сябе ўпэўнена - нават не адлятаюць, а проста падыходзяць да змяі і б'юць яе дзюбай. Для фазанаў, варон і свойскіх курэй змеі - дэлікатэс. Вожыкі ў такой сітуацыі спадзяюцца на свае іголкі. А як быць таму, у каго няма ні дзюбаў, ні іголак? Можна пусціць у ход кіпцюры. Каты нападаюць амаль на кожную змяю, прычым, больш паспяхова яны змагаюцца з ядавітымі. Сабакі падзяляюцца на нясмелых і смелых. Першыя ўтуляюць хвост і знікаюць, апісаўшы шырокую дугу. У другіх поўсць на загрыўку становіцца дыбка, і яны імгненна нападаюць на ворага, не даючы яму апамятацца. Так робяць звычайна таксы (ямнікі), фокстэр'еры і спаніелі. Тхарок і каменная куніца спачатку дражняць змяю, працягваюць да яе лапу і маланкава адхопліваюць. Відавочна, змяя расходуе пры тым яд. Рэшткі яго для звярка цяпер ужо не такія небяспечныя. Што ж, хітрасць - таксама зброя.




*Малюнак Ады Сяменюк з „беларускай школкі" ў Беластоку.*

## УЮН І КАРАСЬ
КАЗКА

Сышліся ў зарослым травою закутку ціхай рэчкі ўюн і карась, пачалі спрачацца, хто з іх хітрэйшы.

- Я хітрэйшы, - кажа ўюн. - Мяне нічым не зловіш. Ні рукамі, ні сеткаю, ні вудаю. Я слізкі, пралезу паміж пальцаў. Худы, пругкі - прашмыюся ў любую дзірку ў сетцы. Не клюну і на чарвяка, бо мне і так яды хапае. А цябе, карась, можна зладзіць чым хочаш. Ускаламуць ваду - і ты ўсплывеш наверх. Чалавек убачыць кругі на вадзе, падсуне пад цябе рукі і выкіне на бераг. Ты шырокі, як лапаць, з сеткі не ўцячэш. І на вуду цябе зладзіць лёгка - ясі ўсё без разбору.

Карась пакрыўдзіўся, натапырыў плаўнікі:

- Я хітрэйшы. Мяне таксама не зловіш ні рукамі, ні сеткаю, ні вудаю. Лягу на дно, закапаюся ў мул і буду ляжаць. Рукі да мяне не дастануць, сетка прапаўзе зверху, чарвяка я сам не ўбачу. А на вас, уюноў, чалавеку і глядзець брыдка, такія вы слізкія і вёрткія. Як вужакі. Не дужа ён і кідаецца вас лавіць. Хіба толькі зімою, калі людскай рыбы няма. Прасячэ пельку ў лёдзе, паставіць туды рэшата, у дзірку прапусціць рукаво ад старой фуфайкі - і выпаўзеш ты праз гэта рукаво ў самае рэшата.

Уюн хацеў далей спрачацца, ды ззаду раптам нешта як бухне ў бераг! Ірванулiся карась з уюном - і разам заскакалі ў камлі таптухі.

Рыбак вынес таптуху на бераг, пераклаў за камель і паклаў у мокрую торбу абедзве рыбіны.

Праўду кажуць: выхваляцца выхваляйся, ды па баках азірайся.

АНДРЭЙ ФЕДАРЭНКА

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прыснілася мне, быццам я сяджу пад нейкім ровам і махаю нагамі, звесіўшы іх уніз. Раптам бачу, што з маёй правай нагі ссоўваецца чаравік. Я ледзь яго не згубіла, быў бы ўваліўся ў той роў, але ж нехта мне дапамог і надзеў гэты чаравік на маю нагу.

Пасля быццам бы нехта падсунуў мне пад нос дзве міскі - адна з каўбасой, а другая з вараным мясам. Міскі такія вялізныя, як на вяселле якое гэтага мяса было нароблена. Я пачынаю есці гэта мяса, але яно нясмачнае.

А на другі дзень мне прысніліся вельмі прыгожыя боты. Яны былі надта высокія, з карычневай скуры, прыгожыя і элегантныя. Што могуць абазначаць усе гэтыя сны?

**Міля**

Міля! Твае сны някепскія. Першы абазначае, што ты збіраешся ў нейкае падарожжа, але вынікнуць ускладненні. Бачыш жа, што ты ледзь не згубіла чаравік. Нехта дапаможа табе, і ўсё скончыцца добра. Пацвярджаюць жа гэта і тыя цудоўныя скураныя боты, якія прысніліся табе на другі дзень.

Што датычыцца "вясельных" місак з каўбасой і вараным мясам, дык і гэта някепска, бо ўсё ж ты ела варанае мяса, а гэта абазначае, што ўсё будзе добра. Горш было б, калі б ты ела сырое. Абазначала б гэта хваробу і смутак. А з другога боку дык і не дзівота, што каўбасы і мяса сняцца. Прыйдзе чалавек у магазін, нагледзіцца на тыя вяндліны, пастаіць ды забярэ з сабой успамін на начныя мары.

**АСТРОН**



### СПАРЖАВАЯ ФАСОЛЯ, ТУШАНАЯ З ГРЫБАМІ

На 1 кг спаржавай фасолькі трэба ўзяць 15 дэкаў цыбулі, 30 дэкаў баравікоў або пячурыц, паўшклянкі смятаны, 3 лыжкі алею са сланечніка, соль, перац, папрыку ў парашку.

Струкі спаржавай фасолі памыць, нарэзаць кавалачкамі даўжынёю каля 1 см. Палажыць іх у кіпячую, пасоленую ваду, варыць пад покрыўкай 5 мінут, адцадзіць. Цыбулю абабраць, спаласнуць, нарэзаць пер'ямі, пасаліць, тушыць на алеі. Памыць грыбы, дробна нашаткаваць іх, дадаць да цыбулі. Баравікі тушыць пад покрыўкай каля 20 мінут, пячурыцы дастаткова 5 мінут. Дадаць фасольку. Стушыць яе, накрыўшы покрыўкай. У канцы тушэння дадаць смятану. Дадаць соль, перац і папрыку. Пералажыць у салатніцу.

Страву гэту падаюць як гарачай, так і халоднай да страў з яек, мяса, рыбы, макарону і рысу. Гарачую - да гарачых страў, халодную - да халодных.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ГЕАГРАФІЯ МІФАМАНА

*У папярэднім нумары „Ніве" Барыслаў Рудкоўскі апісаў матрыманіяльныя праблемы, у якія заблытаўся Пятро Байко падчас сваёй пабыўкі ў краінах паўночнай Афрыкі. Спадар Б. Рудкоўскі прадаўжае сваю легенду пра падзеі, якія перажываў яго сябра, вяртаючыся на родную Беласточчыну.*

* * *

Прыехаў Пятро са сваімі спадарожніцамі на цэнтральную вуліцу сталіцы Лівіі. А там стаіць шыльда: „Пасольства Крывічоў". Вось яно, якое шчасце!.. Як толькі прайшоў ён першыя дзверы, пабачыў штосьці жудаснае. Стаіць вартаўнік у поўным рыцарскім узбраенні. Жалезны шлем на галаве. Канцом пікі паказвае Пятру куды ісці. Адкрывае наступныя дзверы. За сталом сядзіць прыгожая дзяўчына. Маладая. Быццам з „Парнаса" Янкі Мордана. Калі пачула ягоную мову, узялася Пятра абдымаць і прыгаварваць:

— Ты наш дарагі суайчыннік!.. Пляменнік крывічоў... Ай, як жа ты добра гаворыш па-нашаму...

— Я — беларус! — цвёрда сказаў Пятро.

— Вось і добра. Гэта тое ж самае.

Тут успомніў Пятро артыкулы ў „Ніве" М. Гайдука. Там пісаў ён аб крывічах.

— Хачу вярнуцца дамоў. Прашу візу для дзвюх маіх жанчын. Я цяпер — міфаман. За мною стаіць сам Зеўс з Герай. Маю на гэта правa! — і ў доказ сваёй правільнасці паказаў свае босыя ногі, доўгую бараду і дзве ўсхваляваныя музы — Арду і Струму.

Разлучаць мужа з жонкай нельга, і ўсе справы Пятру хутка афармілі. Праз сем дзён утраіх рушылі ў дарогу. Першае падарожжа было на вярблюдах. Нанялі рамізніка. Па пустыні дабрылі да аднаго аазіса каля караваннага шляху. Пятро ўбачыў некалькі пальмаў, калодзеж з каламутнаю вадою і заезны дом. Будынак больш падобны быў на часовы куратнік, чым на жыллё. Зайшлі ўнутр. Нары з пальмавымі лісцямі. Падлога з выбоінамі. Усюды валяюцца кансервавыя бляшанкі. У вуглу гнілы дактыль... Якаясь авечая нага... Хмара мух — вялізных, страшных!

Адразу ж маса блох абсела Пятра!.. Жудасць! Ён жа еўрапеец!.. Блохі і блашчыцы вельмі любяць паласавацца свежаю крывёю. — Да гэтага, — сказаў гаспадар заезнага дома, — будзьце асцярожны! Магчыма ноччу вас наведаюць скарпіёны. З імі няма жартаў. Няма ратунку!"

Словы гаспадара занялі Пятру дых. Ён выйшаў з-пад паветкі, сеў ля калодзежа. У хуткім часе Пятро пабачыў жудаснае відовішча. Да яго з закінутым на плячо джалам, поўз скарпіён. Пятро закрычаў. Прыбег араб і растлумачыў яму: скарпіёны ідуць да вадапою. Паглядзі ты навокал. Колькі іх ёсць!

З вялікаю пакутай пераначавалі. Ранічкаю караван рушыў у дарогу. Пад самы вечар Пятро са сваімі спадарожніцамі ўбачылі порт Бенгазі ды карабель „Гераклiт". Неабходна было дабрацца да грэчаскага паўвострава Каламе. Там на чыгунку, цераз Афіны, Ларысу, Скоп'е, Бялград, Будапешт —дамоў, на Беласточчыну. Да рэштках свайго племені — крывічоў.

Арда была больш вучоная. Добра ведала грэчаскую міфалогію. Цвёрда верыла, што дачка Зеўса — Севіла, напісала або расшыфравала прароцтва, што названа яе імем. Арда захацела пабываць на гары Алімп. Там жа ж прабываюць усе багі міфаманаў.

Пятро згадзіўся пайсці на Алімп. Калі яны ўтраіх узбіраліся на гару, да іх прыйшла гід-дзяўчына з Ерыхона. Палесціна. Пакінула радзіму па няшчасцю. На гэтай гары ўсе пакланяюцца трансцэндэнтнай звышпрыроднай сіле.

— Вазьмі мяне ў Еўропу, — настайвала гід. — Маё імя — Фаціма. Я буду тваёй трэцяю жонкай.

— Што рабіць?.. Вось якое шчасце мяне сустрэла!.. Буду мець тры жонкі!!! Усе мне будуць зайздросціць!.. Дык яшчэ спатрэбіцца наложніцы... Іх я пашукаю ў Белавежы. Без наложніц справа не пойдзе. Дык я ж — міфаман!— радаваўся Пятро.

З вялікаю турботай удалося яму аформіць візу ў Афінах на Фаціму. Боса хадзіў у пасольства крывічоў, трос барадой, паказваў нож... Выхваляўся, што цяпер ён можа, не вагаючыся, пазбавіць жыцця пеўня, а то і барана. Стаяў з доўгім „герляхам" каля стала. Выглядаў на ўсёзнішчальнага. Нагнаў багата страху ў пасольстве. Прасілі яго схаваць страшэннае лязо ды пачакаць на калідоры. Хутка вынеслі яму візу на Фаціму. Так Пятро Б. стаў уладальнікам трох красунь. А калі штосьці і закінуць яму, што, маўляў, у нас нельга мець трох жонак, дык ён ім: „Я — міфаман. Прачытайце грэчаскую міфалогію, вы цёмныя асталопы!.. Да таго я смела магу пайсці боса па Белавежы ды патрэсці сваёй доўгай барадою. Міфаману ўсё дазволена — за мной стаяць сам Зеўс з Герай. Пайду па вуліцы Стачок у Белавежы ды ўсе мае: Арда, Струма і Фаціма. Жанчыны будуць ахутаны ў паранджы. Я належу на галаву геркулесаў чапец. На нас будуць глядзець сарокі і вароны. Тут не будзе месца на разглагольстваванне: меў ці не пеў права!"

Дык гэта толькі мара. Пятро яшчэ ў Грэцыі. Засталася яшчэ адна невялікая фармальнасць: звянчацца з Фаціма́й. У Афінах ім сказалі, што ў канцы алеі Перыпатэтыкаў, у былой Філасофскай акадэміі, стаіць вялікі камень. Пайшлі туды. Жраца там не было. Для міфаманаў ён не вельмі патрэбны. Сіла духа Зеўса і Геры — усемагутная!.. Толькі прынесці ім ахвяру. Пятро стаяў босы. Арда, як першая жонка, з пеўнем у руках, зрабіла жэст у бок Пятра і Фацімы. Жаласнае працяглае „ку-рру" пеўня не змаўкала. Дык Арда нажом прымусіла яго змоўкнуць. Няшчасная птушка білася ў смяротнай агоніі пад нагамі маладых. Тады Арда ўрачыста абвясціла Пятру, што Фаціма — яго трэцяя законная жонка.

Пятро быў вельмі задаволены. Усе рытуалы адбываюцца з дапамогай пеўняў і бараноў ды яго самога не чапаюць. Як жа добра, што гэтыя дзяўчаты — не яўрэйкі!.. Калі б мне ўсе тры жанчыны зрабілі абразанне, я б вярнуўся ў Белавежу з ... нічым. Як страшна!..

Пятро Б. ужо ў Белавежы. Прыйшоў ён у сваю кватэру з дзвюх пакояў і кухні. Па раскладу, дзве жанчыны спалі ў адным пакоі, а адна з іх заставалася з Пятром. Вядома, пасля месяца часу Пятро пачаў хадзіць нанач як найдалей ад свайго дому. Шукаў ратунку ў сваякоў ды знаёмых у Белавежы.

Калі яго і там ноччу находзілі, ездзіў у Гайнаўку да Міхася Байко, аднак жа не вельмі доўга. І там яго знайшлі. На канец пачаў прыязджаць і да мяне ў Бельск-Падляшскі. Чорны ды цёмны на твары! Піў кардыямід, валяр'янку. Калі я ўспомніў аб наложніцах, якіх належыцца мець міфаману, Пятро пабялеў. Відэлец выпаў яму з рукі. Так і паваліўся Пятро на падлогу. Ледзь я яго прывёў да прытомнасці. Больш пра наложніц я яму не ўспамінаў. Рэдка і пра жанчын гаварыў наогул. Апанаваў Пятра антыфемінізм. Цяжкая хвароба. А я не ведаю, як яму дапамагчы.

**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**

### РАЗЕТКА-АСАЦЫЯТКА

*Гэта від разеткі вылучаецца тым, што замест азначэння падаюцца тры словы, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.*

**Управа:** 1/ жывёла, малако, цяля, 2/ багна, гразь, дождж, 3/ вёска, Лёнік, ураджэнец, 4/ штат, Бісмарк, індзейцы, 5/ папера, лісток, талон, 6/ хвароба, прастуда, хрыпка, 7/ кветка, клумба, чырвань, 8/ бервяно, вулей, карты.

**Улева:** 1/ Раждаство, вячэра, абрад, 2/ валасы, твар, касмыль, 3/ метал, бронза, Sn, 4/ прылада, цяслер, дзірка, 5/ пустазелле, збожжа, поле, 6/ пасудзіна, свіння, корм, 7/ астатак, частка, адход, 8/ жывёла, алень, лес.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 36 н-ра. Управа:** фарсун, фурман, фасоля, фараон, футляр, фігура, фантан, флакон. **Улева:** феадал, фарфор, фартух, фосфар, фарэль, футбол, фігляр, фанера.

Кніжную ўзнагароду атрымоўваюць: Барбара Гура з Любліна і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.





**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Ялантa Панфілюк (карэктар), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МА КАТ РАЗМЫ

### БАРСКІЗМ

Алеська Маркса пагартаў
І тэарэтыкам белкапу* стаў.
Дэвіз яго як свет стары:
- Шырэй кішэні, спадары!

### ЗАЦІКАЎЛЕНЫМ

Лічу наспелым пытаннем
Паднавіць крылы белтытаніі.

**СІДАР МАКАЦЁР**

* *беларускага капіталізму*

Узятае з жыцця

## СМАЛЯНЫ СУП

- Здарылася гэта якраз пасля апошняй вайны, - працягвала расказваць сваёй сяброўцы Манечцы Стэфка. - Калі выходзілі запасы мяса ў маёй каморы, гавару я Міхасю:

- Міхась, зарэж барана.

А ён мне на гэта:

- Хай паправіцца ён, падрасце.

Злосць мяне ўзяла і тады сабе падумала: "Калі ўжо так, дык я цябе, халера, накармлю". Аднойчы, калі Міхась пайшоў у поле араць, стала я варыць суп, але ў двух саганах. Сабе ўкінула кавалак свінога мяса, а яму - кавалак смаліны. Калі супы зварыліся, я свой з мясам хуценька з'ела, а з другога сагана выкінула вываранага смаляка і стала чакаць мужа з поля. Вярнуўся Міхась змучаны і галодны і ад дзвярэй крычыць:

- Стэфка, маеш што есці?!

Наліла я яму поўную міску смалянога супу і адрэзала вялікую лусту хлеба. Міхась есць, сапе, а я гляджу і думаю, што з гэтага вынікне. Міхась з'еў усё, а я пытаю:

- Можа дабавіць яшчэ?

- Дык налі.

І калі ўжо Міхась, гэты абжора, прагнаў голад, тады стаў нюхаць суп, смакаваць яго і ўрэшце спытаў:

- Стэфка, а што ты варыла ў гэтым супе?

- То ж таго барана, што ты зарэзаў, - адказала я яму.

Вось так аднойчы накарміла я свайго Міхася.

**УЛАДЗІМІР ЦІЛЮЛЬКА**






*- Дэсантуемся, за бортам Польшча.* *Малюнак П. Козіча*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Я бачыў сёння ноччу надзвычайны сон, — расказвае Ранальд свайму сябру. — Разумееш, мне снілася, што я ўвесь дзень катаўся ў Коні-Айленд на чортавым коле.

— А мне снілася, — сказаў яго сябар, — што я сяджу ў кампаніі дзвюх чароўных бландзінак.

— І ты не мог мне пазваніць?

— Я званіў, але жонка сказала, што ты паехаў у Коні-Айленд.

* * *

У заамагазіне пакупнік просіць паказаць яму гаворачага папугая.

— На жаль, гаворачыя папугаі кончыліся, але магу вам прапанаваць дзятла.

— А што, хіба дзяцел умее размаўляць?

— Як вам сказаць, у кожным выпадку, ён дасканала валодае азбукай Морзе.

* * *

Матросы выцягнулі свайго таварыша-шатландца, што ўпаў за борт, і налілі яму поўную шклянку віскі.

Шатландзец паглядзеў на шклянку і сказаў:

— Хлопцы, вы спачатку мяне перавярніце, каб з мяне вылілася ўся вада, а то я цярпець не магу разбаўленага віскі.

* * *

Габравец вярнуўся пасля гадавога знаходжання ў Сафіі. На станцыі яго сустрэлі два браты. Яму адразу кінулася ў вочы, што ў абодвух бароды.

— Што гэта вы адпусцілі бароды? — спытаў ён. — Яны ўжо даўно выйшлі з моды.

— Мода! — сярдзіта сказаў адзін з братоў. — Ты ж забраў з сабою брытву!

* * *

Пацыент звяртаецца да лекара:

— Дваццаць тысяч франкаў за аперацыю? Дык гэта ж вельмі дорага!

— А вось ідзе мой калега Дзюпон, які не возьме з вас ні франка!

— Як, ён робіць аперацыі бясплатна?

— Так, яму звычайна плацяць наследнікі.

* * *

— Мадам, я вымушаны паведаміць вам: вашага мужа знайшлі на сметніку, — гаворыць камісар паліцыі.

— Ну, гэта ён ужо перастараўся, — пацiскае плячыма дама. — Справа ў тым, што, калі я выходзіла, я загадала яму прыбраць кватэру і выкінуць на сметнік усё непатрэбнае.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**

## СВАРКА ЗА САБАК

Раніца ў суботу - як кожная раніца. Ніхто і не думаў, што суседкі з аднаго пад'езда так пасварацца.

Кася і Ядвіга гадавалі сабак. Кася - для дзяцей, якія вельмі любілі Мопса, а Ядвіга, старая дзева - для пацехі.

Людзей у парку каля іхніх блёкаў не было шмат, і яны рашылі пусціць сваіх сабак пабегаць без наморднікаў.

Мопс быў мацнейшы, чым Ядвігін Рэкс, і кінуўся на яго. Пакуль жанчыны дабеглі, Рэкс увесь быў у крыві і ледзь ужо дыхаў.

- Чаму вы пусцілі яго без намордніка?! - узлавалася Ядвіга.

- Ваш таксама ж без намордніка!

- Мой сабака спакойны, а ваш кідаецца як люцыпар! Вы ведаеце, што Рэкс для мяне быў як сем'янін?!

- Ого! Ці як муж, ці як дзіцятка? - на вуснах пані Касі паявілася з'едлівая ўхмылка.

- Ах, якая вы бессаромніца! Думаеце, што калі я адзінокая, то я... сплю з ім, ці што?! Каб ваш муж пайшоў да іншай, а дзеці памерлі, каб адчулі вы адзіноту, то сапраўды пазналі б жыццё!

- Ты што, хочаш, каб мае дзеці здохлі! А здыхай ты сама, старая карова, а то месца займаеш, кватэру!

Вось як у чалавеку прабуджаецца звер. Але Мопс і Рэкс - жывёлы нармальныя.

**АЎРОРА**



*—Не звяртай увагі на тое, што людзі гавораць. Самае галоўнае - гэта здароўе. Надзявай шапачку.*

Байка ў прозе

### ЛЕЎ, ВАЎКІ І ЗАЯЦ

Аднаго разу Заяц прыкмеціў, дзе ваўкі схавалі крадзенае мяса. Падаўся ён да Льва. Уладар выслухаў Зайца і... загадаў сваім слугам падсмажыць яго на вячэру.

Каб параіўся Заяц са старымі зайцамі, то даведаўся б, што ваўкі здабываюць харч і для Льва.

**ІВАН СЫЧЫК**




У мінулым нумары даверыў нам свае тайны Ён. У гэтым Яна:

Мілае Сэрцайка! Пазнаёміліся мы чатыры гады назад. Быў такі нявінны і свежы ў свае 19 гадоў. Мне тады ўжо было дваццаць тры. Натуральна, што не быў ён першым хлопцам у маім жыцці. Пасля першай сустрэчы я адкрыла, што ў яго нязвыклыя сексуальныя магчымасці. Мы пачалі сустракацца.

Падабаўся мне штораз больш. Неўзабаве я зразумела, што закахалася. Не магла пражыць без яго ніводнага дня. На працы думала пра яго, а не пра тое, што раблю. Званіла яму. Праўда, і ён таксама, выглядала, пакахаў мяне.

Ён жыў з бацькамі, але яны не мелі нічога супраць таго, каб мы сустракаліся ў іх хаце /у іх свой дом/. Ніхто нам не перашкаджаў, калі я прыходзіла да свайго хлопца пасля працы, і мы гадзінамі не вылазілі з ложка.

Мой хлопец, заўважыла я, толькі пры мне адкрыў увесь чар кахання. Сам мне казаў, што і да мяне меў пару дзяўчат, але ўсё гэта было не тое. Нічаму яны яго не навучылі. А быў здольным вучнем!

Я разумела, што калісь можа здарыцца рознае - быў жа ён да ўсяго таго нябрыдкі ды прыстойны. Напэўна сустрэне яшчэ не адну прыгожую дзяўчыну, якая не будзе яму абыякавай. Але яшчэ не цяпер!

Аднак жа недзе праз год ад нашага знаёмства я заўважыла ў Антоне нейкія змены. Не быў ужо такі аддалены мне, не заўсёды меў час тады, калі я мела. У ложку быў такі ж актыўны, як і раней. Не быў, аднак, па-ранейшаму цёплы. Часамі мы дамаўляліся сустрэцца ў яго, я прыходзіла, чакала гадзінамі, а яго не было. Заўсёды ўмеў мне растлумачыць, дзе быў у той час. Але заўсёды быў там, дзе немагчыма было яго спраўдзіць. Напрыклад, у касцёле ці ў нейкай неспадзяванай камандзіроўцы.

Мне хацелася верыць, але я ўжо не верыла яму. У яго бацькоў не хацела ні пра што пытацца. На гэта мне не дазваляў мой гонар. Адчувала носам, што нехта паявіўся ў яго.

Ну, і нос мой мяне не падвёў. Дамовіліся мы сустрэцца ў нядзелю раніцай. А як жа, быў. Уляцеў на мінуту перада мною. Нават не паспеў распрануцца. Відаць, хацеў мне ізноў змяніць, што мо кудысьці выходзіў, але маці непрадбачліва прывіталася з ім.

Пачаў круціць, што заначаваў у сябра, бо цэлую ноч, амаль да раніцы крэслілі нейкі праект. Ведаў, што я не буду дапытвацца ў таго яго сябра, а я і гэтым разам хацела верыць.

Калі мы апынуліся ў пасцелі, я зразумела, што ён вяртаўся ад дзяўчыны. Сперма яго амаль не мела характэрнага запаху. Я яму сказала, што здагадалася па сперме. А ён, бедалага, думаў, што маю на ўвазе яе колькасць. Я ўжо і раней у яго заўважыла, што пасля другога ці трэцяга "раза" яна пахла менш інтэнсіўна. Цяпер я ўжо ні ў чым не сумнявалася. Сабрала манаткі і не хачу яго больш бачыць на вочы. Сэрцайка, жыць без яго не магу.

**Ніка**

Ніка! Хочаш жыць з такім манюкам?! Калі ўжо пачаў табе здраджаваць, дык з гэтай дарогі не сыйдзе, можа крыху прытаіцца, перачакаць, але і так "на сваё" выйдзе. Відаць, адразу меў "шырокія" мары, калі дагэтуль вы не пажаніліся, хаця ходзіце ўжо чатыры гады. Думаю, што ты была яму добрай настаўніцай. Сваё зрабіла - і на бок. З настаўніцамі рэдка жэняцца.

**СЭРЦАЙКА**